# Ад аўтара

Можна сказаць, што нечакана для самога аўтара зборнік склаўся з двух, розных як па часе напісання, так і па жанрава-тэматычнай адметнасці, раздзелаў. Атрымалася дзве кнігі ў адной.

Першапачаткова мелася на ўвазе сабраць пад адной вокладкай толькі вершы, што пісаліся цягам апошніх, 1997–2011 гадоў, але па розных прычынах не ўключаліся ў асобныя выданні, у тым ліку і ў аднатомнік выбраных твораў, які выйшаў у выдавецкай серыі «Беларускі кнігазбор» (2009). Што і рабілася, укладаліся, часам з нязначнай праўкай, тэксты, якія пабачылі ўпершыню свет на старонках перыядычных выданняў — ранейшага «ЛіМа», «Літаратурнай Беларусі» («Новы час»), «Народнай волі», «Полымя», «Дзеяслова», «Тэрмапілаў», «Верасня».

Ды ў працэсе падрыхтоўкі выявілася, што кніжнымі «выбранымі творамі» абыдзены на толькі некаторыя вершы, але і асобныя паэмы. Найперш — загадкавы для мяне самога лірычны аповед з яго двухслоўным новатворам-рэфрэнам «Кэты-мэнэй». Напісаны аж у 1971 годзе, ён быў надрукаваны толькі ў ліпеньскім нумары часопіса «Крыніца» за... 2001 год. І больш нідзе не з'яўляўся. Не ўключаліся ў «выбранае» таксама датаваныя 1970-мі гадамі «Паэма мора» і дарожная паэма-эсэ «Снег і сонца. Абмен надвор'ем — жартам і ўсур'ёз». Перачытаў нана-

ва ўсе гэтыя тры рэчы. Здаецца, іх аб'ядноўвае не толькі час напісання, але і нешта духоўна-сутнаснае, прасякнутае пэўным светаадчуваннем. І яны натуральна склалі асобны раздзел кнігі.

*Анатоль Вярцінскі*
*Люты 2012 г.*

## На радзіме пеўні пяюць...

Пеўня першага я пачуў праз сон.
Абудзіўся — пачуў я другога пеўня.
Недалёка ад вёскі жыву колькі дзён,
але неяк той спеў даляцеў неспадзеўна.

Праспявалі пеўні і трэці раз,
на ўсё той жа высокай, пранізлівай ноце.
І замоўклі... Забілася сэрца ў адказ.
Значыць, жыцьме мой родзе, мой народзе?

Значыць, вёска жыве?
          Значыць, певень пяе? —
па законе, што тут здаўна існуе,
па законе нязменным, спрадвечным,
і прыродным, і чалавечым.

Так даўно павялося ў нашых краях,
што дзень новы нам певень абвяшчае,
абвяшчае і дзень ён, і зборы ў шлях,
і сяўбу, і касьбу, і збор ураджаю.

Певень гэты жывучы — пяючы наўздзіў.
Цяжка край уявіць без гэтай птушкі.
Ён Скарыну будзіў, ён Купалу будзіў,
ён будзіў касінераў Кастуся і Касцюшкі.

На маёй Беларусі певень пяе.
Певень голасна будзіць: «Беларусы, не спіце!
Тым, хто рана ўстае, таму Бог дае.
Прачынайцеся, справу рабіце!

Прабуджайцеся! Справу рабіць самы час!
Не здавайцеся паняверцы і скрусе!
Бо інакш праспіце свой апошні шанс...»
...Пеўні звонка пяюць на маёй Беларусі!

*1997*

# Беларушчына
# Трыпціх

## 1. Беларускі шлях

Беларускі шлях.
        Пыл і пот,
        стогн і страх.
Колаў скрып у каляіне.
Птушкі прысвіст на каліне.
        Гацім гаць:
        «Га-а-а-х!»
Беларускі шлях.
Бліскавіц зігзаг.
Сінь смугі ды хлеб надзённы.
Хто вядзе, а хто вядзёны?
        Гацім гаць:
        «Га-а-а-х!»

## 2. Беларускі дом

Беларускі дом...
        Ён — рэальнасць
        ці фантом?
Ці наяве тая ж хата,
што шыбінай слепаватай
на свет глядзіць вінавата?
Толькі хатка, а не дом?
Беларускі дом. Беларускі сіндром.

Які ж дом, калі на куце,
выпнуўшы нахабна грудзі,
госць сядзіць гаспадаром?
    Які ж гэта дом?

### 3. Беларуская ідэя

Беларуская ідэя.
    Яна — роспач
    ці надзея?
Гучыць рэха: «...дзе я?.. дзе я?..»
Беларуская ідэя.
    Толькі слова,
    ці і дзея?
Гучыць рэха: «...дзе я?.. дзе я?..»
Рэха ў лесе, рэха ў полі.
Чаго ў рэху гэтым болей? —
    Веры, скрухі або смеху
    ў гэтым рэху?

*1997*

# Параўнанні

Што робіцца? — пытаюся з трывогай.
Прыходзяць параўнанні на падмогу.
То вечарам, то ў сне, то ўранні
прыходзяць нечакана параўнанні.
Прыходзіць на падмогу параўнанне —
як сродак спасціжэння і пазнання.

**Першае**. Яно, гэтае параўнанне
(тут я пераходжу на свабодны верш),
прыйшло раніцай на вакзале.
Дакладней — на прывакзальнай плошчы
з яе шматлюдным снаваннем туды-сюды,
з яе хаатычным броўнаўскім рухам.
Убачыў, адчуў фізічна,
адчуў плячамі, локцямі, падэшвамі ног
гэту плошчу,
убачыў, адчуў фізічна
натоўп пасажыраў,
кожны з якіх шукаў на табло і ў раскладзе,
а таксама шляхам роспыту
свой цягнік і свой перон
і кожны з якіх спяшаўся на свой цягнік, —
убачыў і адчуў я ўсё гэта
і падумаў, адкрыў раптам для сябе:
«Чакай! Дык гэта ж так падобна
на нас, сённяшніх беларусаў
як соцыум, як народ.
Гэта ж мы, беларусы, сёння
на новым гістарычным раздарожжы,
вось так мітусліва снуём,

кідаемся ў розныя бакі,
бяжым кожны на свой цягнік...
Замест таго, каб збірацца разам,
разам выбіраць маршрут,
разам вырашаць, якім цягніком,
ад якой платформы і з якога пуці
адпраўляцца супольна ў шлях...

**Другое**. Прыйшло днём
у гадзіннікавай майстэрні.
Чакаючы сваёй чаргі,
я стаў міжволі разглядаць
расстаўленыя на паліцы гадзіннікі.
І ледзь не засмяяўся ўголас
ад свайго, так бы мовіць, адкрыцця.
Здадзеныя ў рамонт
са спыненым ходам гадзіннікі
паказвалі абсалютна розны час.
Настольны, у прыгожай драўлянай «пад арэх»
аздобе —
3 гадзіны 5 мінут;
насценны, са светлым керамічным
цыферблатам —
9 гадзін 9 мінут;
стандартны, круглы, з колцам наверсе
будзільнік —
12 гадзін 20 мінут...
І гэтак далей.
Я нават пaглядзеў машынальна на свой гадзіннік:
«Колькі ж гэта насамрэч часу?»
Я нават удакладніў, спытаўся ў жанчыны,
якая стаяла перада мной:

«Колькі, прабачце, на вашым залатым?»
І потым падумаў раптам,
вяртаючыся дамоў,
што гэта майстэрня нагадвае
наша грамадства, наш беларускі дом.
Парушылася калісь наша гістарычная памяць.
Разладзіўся механізм нашага гістарычнага
гадзінніка.
Распалася сувязь часоў і падзей.
І вось мы блукаем сёння ў часе.
І вось жывём па розных гадзінніках,
не вельмі імкнучыся звяраць іх.
І вось у адных — адзін адлік часу,
а ў другіх — другі...
Мы — народ без спраўнага,
адзінага для ўсіх, гадзінніка.

**Трэцяе**. Яно мае цыганскую афарбоўку.
Чаму цыганскую?
«Цыган не паган, толькі цела закапцела?..»
Ну, так. Вядома. Нічога супраць цыганоў не маю.
Проста справа ў тым, што некалькі гадоў назад
я жыў у доме, які выходзіў тарцом
да Старажоўскага рынку
(нядаўна знесенага па нейкай прычыне).
Па нядзелях на рынак прыязджалі цыганы.
Іншы раз, пасля таргоў, спыняліся ў двары
нашага дома.
І вось аднойчы ў базарны дзень
я пачуў нейкі шум і гам.
Я выглянуў у акно і ўбачыў маляўнічую сцэну:
каля сваіх павозак сварыліся і біліся цыганы.

Усхадзіліся, біліся ўсе як ёсць,
усім табарам, усе з усімі.
Зрэшты, «біліся», бадай, не зусім тое слова.
Яны больш крычалі, тузаліся, штурхаліся...
Стараваты, тоўсты штурхаў у грудзі маладога,
хударлявага,
адна цыганка намагалася схапіць за валасы
другую,
а тая, другая, у сваю чаргу,
замахвалася на бліжэйшага да яе цыгана
ў яркай, наросхрыст, кашулі,
ці не мужа першай.
Цікавы быў фінал.
Калі самае малое цыганя
падбегла да старэйшага, тоўстага
і таўханула яго ў жывот,
то бойка на гэтым і скончылася.
Цыганы хуценька паселі на вазы
і падаліся туды, адкуль з'явіліся.
«Bellum omnium contra omnes» —
толькі і паспеў я сказаць ім услед. —
Цыганская разнавіднасць
«вайны ўсіх супраць усіх»...
У апошні час я не-не ды і згадаю
тую, так бы мовіць, татальную сварку-бойку...
Падстаў для згадкі, пагадзіцеся, больш чым
дастаткова.
Тое, што адбываецца ў краіне,
калі нас падзяляюць і сварацьць,
калі нас сутыкаюць ілбамі,
калі нас проціпастаўляюць аднога аднаму
настройваюць адных супраць другіх, —

усё гэта так нагадвае
«вайну ўсіх супраць усіх» —
у згаданым мной цыганскім варыянце.

**Чацвёртае**. Яно прыйшло мне ў сне.
Прыснілася на досвітку, што недзе,
ці то на тым жа вакзале,
на той жа, зноў-такі, прывакзальнай плошчы,
ці то на нейкім іншым бойкім месцы,
сабралася нас вельмі шмат,
сабраўся нас цэлы натоўп.
Дзеля чаго сабраліся? З якой нагоды?
З якою мэтай? Ніхто не ведае.
Не ведаю і я таксама.
Спрабую дапытацца, але ўсё марна.
Чуваць нечы трывожны крык,
але сэнс яго незразумелы.
І вось ад гэтага няведання,
ад гэтай няпэўнасці,
ад гэтага трывожнага незразумелага крыку
нам усім робіцца страшна,
нас усіх ахоплівае спуд.
І мы пачынаем усім гуртам
бегаць, мітусіцца,
кідаемся ў розныя бакі.
Ці то каб некуды паспець,
ці то каб ад некага схавацца...
Прачынаўся я з адчуваннем таго спуду,
таго вялікага перапалоху,
які толькі што перажыў у сне
і пра які палякі кажуць: «Owczy pęd».
«Овчы пэнд»... Пэнд і спуд —

гэта, здаецца, не адно і тое ж,
але блізкія не толькі па гучанні,
але і па сэнсе словы.
Які сялянскі сын не ведае,
што ўяўляе сабой бег спуджанага статка!
Словам, сон быў у руку.
Сніўся мне мой родны беларускі люд.
Яго называюць: рахманы, ціхамірны,
талерантны...
Дададзім яшчэ і гэты эпітэт — «спуджаны».

Такія вось прыходзяць параўнанні.
Прыходзяць неяк самі... Далібог!
Пры намаганні ўсім, пры ўсім старанні
я выдумаць бы іх ніяк не змог.
Прыходзяць на падмогу параўнанні
і высвятляюць маёй тэмы грані.

*1997*

## Уціраемся?

*Маналог «нацдэма», вытрыманы ў запытальнай інтанацыі*

Як сведчаць гісторыкі, «распрацоўка» арыштаваных, выбіванне з іх «чистосердечных признаний» падчас сталінскіх рэпрэсій суправаджаліся рознымі садысцкімі метадамі «фізічнага ўздзеяння», г. зн. катавання. Яны мелі свае назвы: «табурэт», «вятрак», «мазгі ў столь» і г. д. Адметнасцю некаторых з гэтых метадаў было тое, што вязням, асабліва «нацдэмам», яшчэ плявалі ў твар. Для большай эфектыўнасці допыту.

Вось так нас катавалі.
Білі і ў твар плявалі.
Плявалі проста ў твар.
Удар. Плявок. Удар.

А мы як рэагавалі
на тое, што плявалі
нам проста ў вочы, у твар?
Пляўкі прымалі, як дар?

Лаяльнымі быць стараліся?
Скараліся і... ўціраліся?

Плявок. Удар. Плявок.
Крыві ўласнай глыток...

Вось так нас катавалі.
А мы? Не пратэставалі?
Не ўскідвалі кулакі
у адказ на пляўкі?

Уціраліся нема?
Маўляў, такі лёс «нацдэма»,
лёс «беларускіх сыноў» —
скарацца зноў і зноў?

Уласнай крывёю салёнай
ды катаўскай слінай шалёнай
уцерліся мы тады,
у смутныя тыя гады?

А потым? Песня старая ўсё?
Уцерліся і... ўціраемся?
Удар. Плявок. Глыток.
Уцерся зноў, браток?..

*1997*

# Дзед і ўнук

Вечар згушчаецца за акном.
Чуюцца ўнукавы ціхія слоўцы:
«Дзеду, пабудзь ля мяне перад сном,
дзеду, пагладзь мяне па галоўцы».
Вярнуўся са школы, пытанне ў вачах.
Пытанне пра сцяг бел-чырвона-белы...
«Мы летась вучылі, што князь наш быў смелы:
павязку сарваў ён, і ўзняў, як сцяг,
і воінаў зноў павёў за сабой,
і стаў уцякаць пераможаны вораг...
Чаму ж пра той сцяг дрэнна гавораць,
калі мы тады выйгралі бой?»
Вечарам — той жа размовы працяг:
«Чаму не ўсе любяць прыгожы наш сцяг?
Ён сёння прысніцца мне, я ведаю...
Пагладзь па галоўцы мяне, дзеду».

*1997*

## Паходжанне прозвішча

*Акадэміку Радзіму Г.*
*Гарэцкаму*

Адкуль яно, гэтае «імярэк»?
Адначасна ад «гор» і «рэк»,
а не толькі ад «гаротнага».
Ёсць тут доказ ад зваротнага:
бо яны — цвёрдай, скальнай пароды,
іх душы — як чыстых рэчак воды...
Адкуль яно, гэтае найменне?
Ад «гараванне» і «гарэнне».
Ляталі-гайдалі лёсу арэлі...
Яны гаравалі і гарэлі.
Кідалі-ўздымалі жыццёвыя хвалі...
Яны гарэлі і гаравалі.
Гарт набывалі ў суровым горне.
Лепшую долю мужна агорвалі.
Такія яны ужо — Гарэцкія.
Арэшкі — мацнейшыя за грэцкія...
Арэх — ад арэшыны.
Жолуд — ад дуба.
Слухаць уцешна,
бачыць люба.
Шукальнік залежаў,
стваральнік карт.
Гонар.
        Годнасць.
                Горан.
                        Гарт.

*1998*

## Як быць з НАТА?

Пытаюся ў дзядзькі Ігната,
як ставіцца ён да НАТА.
Ён хмыкнуў хітравата,
і чую я ў адказ
хрыплы дзядзькаў бас:
«Чаго ўжо тых хаўеры
баяцца нам, як халеры?
Не будуць чапаць яны нас.
Сам не рабі ліхога
і не бойся нікога.
Так вось мяркую
і я, і баба мая».
Тут адчыняецца хата
і выходзіць Агата.
Кажа: «Вы ўсё пра НАТА?
Далося ў знакі яно,
а мне дык ўсё адно.
На мой жа розум жаночы,
дык хай жыве, хто з кім хоча,
хто да каго ахвочы...»
Ігнат ускрыкнуў ажно:
«Ну, хопіць, Агата, досць!
Разышлася ты надта!
Што падумае госць?
Няма на вас, баб, НАТА!..»

*1998*

## Мінута маўчання

Стагоддзі нягод,
змагання гады,
гадзіны адчаю...
        Мінута маўчання.
Бой барабанаў,
гул галасоў,
салютаў гучанне...
        Мінута маўчання.
Маўчаць абеліскі,
крыжы і пліты маўчаць,
маўчаць незвычайна...
        Мінута маўчання.
Сказаны словы,
ды мала тых слоў
для ўшанавання...
        Мінута маўчання.
Думкай убачыш,
зазначыш душой
больш, чым вачамі...
        Мінута маўчання.
Цэлую вечнасць,
імгненняў мільён
мінута змяшчае...
        Мінута маўчання.
        Мінута маўчання.
        Мінута маўчання.

*1998*

## Калі гвалтуюць Айчыну...

Грудзьмі тулюсь к ёй, як да матчыных грудзей.
І калі здзекваецца нада мною хтосьці —
Над Бацькаўшчынай здзекваецца ён маей,
Калі ж над ёй — мяне тым крыўдзіць найцяжэй.
*Янка Купала*

О Русь моя! Жена моя!..
*Аляксандр Блок*

Так, кожны гвалт — злачынны.
Справа рук сатаны.
Але гвалт над Айчынай —
гвалт двайны, трайны.
Калі гвалтуюць Айчыну —
гвалтуюць тваю жанчыну,
гвалтуюць маці тваю,
гвалтуюць тваю радню,
гвалтуюць цябе самога,
кроўны пачатак твой,
існасць тваю, твайго Бога
(змагаюцца Бог з сатаной).
І з гэтым гвалтам мірыцца —
сябе самога забыць,
найбольшаму злу скарыцца,
найгоршым адступнікам быць.
Калі гвалтуюць Айчыну —
мужчына, будзь мужчынам,
яе ратаваць ідзі,
яе заслані грудзьмі.
Няма вышэйшага чыну —
няма і не было, —

чым бараніць Айчыну,
калі ёй робяць зло.

*1998*

## Здарэнне з беларускім часам

Прымроілася мне ў сне
(мозг сонны на што ні здольны),
што сталі гадзіннікі ўсе —
наручны, насценны, настольны...
Спыніўся, бачу, і той,
што — на галоўнай вежы,
што з музыкай залатой
біць пачынаў першы.
Не йдуць,
не звоняць,
не б'юць...
Трывожуся: «Колькі ж часу?»
Яны не даюць адказу, —
не звоняць,
не б'юць,
не йдуць.
Замерлі ўсе як адзін,
І я ўсклікаю спрасоння:
«Дык колькі ж усё-ткі гадзін?
Якая дата сёння?
Год які на двары?
Ці новы ўжо, ці стары?
Пара надыходзіць якая?
Што нас заўтра чакае?..»
І чуецца мне адказ —
насмешлівая інтанацыя:
«Сказаць, што чакае вас? —
Інтэграцыя... Інтэграцыя...»

*1998*

## Размова з Радзімай

Прагучаў тройчы вокліч,
  што Радзіма жыве.
Прагучала малітва
  «Магутны Божа».
Пайшло рэха і сціхла.
  А ў маёй галаве
усё тое ж пытанне
  б'ецца трывожна...
Ты жывеш, Беларусь?
  Беларусь, ты жывеш?
Беларусь, я не маю на ўвазе,
  канешне,
што не сееш, не жнеш,
  хлеб зусім не жуеш.
Беларусь, я пытаю
  пра іншае нешта.
Што ў цябе на душы?
  Што ў цябе за душой?
Што наогул з тваёю душою?
Ці ты, можа, ужо за тою мяжой,
дзе сама сабе стала чужою?
Што з душою тваёй?
  Знежывела зусім?
Ці яе яшчэ нешта жывіць і грэе?
Я гляджу ў твае вочы —
  дзе вачэй тваіх сінь?
Твае вера, любоў і надзея?
Я гляджу ў твае вочы —
  мала радасці ў іх.

У вачах тваіх —
        скруха, страх ды пакора.
Ды яшчэ, як сказаў
        хтось з прарокаў тваіх,
«Беларусі мужыцкай
        адвечнае гора».
Я гляджу ў твае вочы:
        што ў іх — тло ці святло?
Над табой зноў пануе
        сіла чужая.
Ты жывеш, Беларусь?
        Ці табе ўсё адно,
як твой шлях вызначаюць,
        хто твой лёс вырашае?
Ты жывеш, Беларусь?
        Мы, твая кроў і плоць,
траякроць зноў
        на плошчы пракрычалі,
што жыве Беларусь,
        пракрычалі шматкроць —
хто ў надзеі,
        хто ў гневе,
                хто у адчаі.
І ў тым хоры звінеў,
        як вясновы капеж,
голас чысты, празрысты, юначы.
Значыць, ты, Беларусь,
        не змярцвела, жывеш?
Не гучаў бы той голас іначай?..

*1999*

# Жывы голас

Але найбольш запаў у душу яе адказ на пытанне пра рэабілітацыю: «Не падавала і падаваць не буду — я сябе вінаватай перад Радзімай не лічу. Прасіць аб рэабілітацыі — прызнаць сваю віну».

*З гутаркі Людмілы Майсені*
*з былой палітзняволенай*
*Надзеяй Дземідовіч*

Вось гэта голас!
        Вось гэта і слова, і дзея!
Нізкі паклон Вам, цётка Надзея.
Нізкі паклон Вам,
        спадарыня Дземідовіч.
Нагледзеліся Вы
        столькі жахлівых відовішч.
Наслухаліся Вы
        столькі слоў паганых.
Зведалі столькі пакут...
        Душа Ваша ўся у ранах.
Душа Ваша ў ранах уся,
        але яна ўсё ж жывая.
Бывае, нясцерпна баліць,
        баліць, але годна трывае.
Вынесла ўсё яна —
        здзекі, этапы, краты.
Не дасягнулі свайго
        шматлікія Вашы каты.
Не вынішчылі ніяк

яны беларускасці Вашай.
Яна, як Божы знак,
давала Вам моц і бясстрашша.
Не змусілі каты Вас
скарыцца, стаць на калені.
Вышэйшыя суддзі для Вас —
Радзіма і сумленне.
Ды яшчэ матчын наказ
крыху грэў Вашы грудзі:
«Надзейка, не плач.
Век так не будзе!»

*1999*

# З ліста Васілю Быкаву ў Фінляндыю

Мы чулі, што ў Фінляндыі цяпер найлепшы час для тых, хто хоча адпачыць або палячыцца... У фінляндцаў ёсць звычай кожнага прыйшоўшага чалавека пачаставаць кавай... Фіны-сяляне куды лепш ядуць ад нашых сялянаў-беларусаў... Фін разы з чатыры на дзень п'е каву. Штосуботу пякуць пірагі. Зімой мяса ядуць тры разы на дзень... Пасля абеду — на падвячорак — каву п'юць з млекам, часам з булкай і маслам. Без млека, асабліва без кваснага, фін не сядзе за стол. Каровак у кожнага гаспадара даволі... Адразу відно, што фінскі народ дэмакратычны: стараецца, каб усе былі роўныя... Фінаў, як і нас, то адзін сільны сусед браў у свае жалезныя рукі, то другі... Ды ніякая сіла перарабіць цяпер фінскі народ на іншы капыл — ужо не здолее, бо свядомасць народа, культурнасць яго стаяць вышэй усякай сілы.

*Цётка. Успаміны пра паездку ў Фінляндыю (1914)*

...Перачытаў я ўспаміны Цёткі.
Мела рацыю яна ўсё-ткі?
А што ўяўляе сёння Суомі?
Народ ветлы, хоць і суровы —
гэтыя колішнія «сумаляйны»*?
Цябе прынялі,
як і Цётку прымалі?

* «Балотныя людзі» (*фін.*).

Частуюць духмянаю
кавай ласкава?
Не дэфіцыт там — добрая кава?
Не стаіш у чарзе
то на адной,
то на другой назе,
з позіркам згаслым,
то за войтай-маслам,
то за майтай-млекам,
свежым ці квасным?..
Пачуваеш сябе чалавекам?
Ну, а ў нас тут такія навіны,
якія наўрад ці ўявяць фіны.
Загадана нейкім кіраўніком,
каб, ідучы насустрач масам,
адгон лічылі малаком,
малако — смятанкаю, вяршком,
вяршкі — смятанай,
смятану маслам,
а тварожную масу — тваражком.
Яшчэ ёсць пункт у тым дэкрэце
(назва яго: «Аб здаровай дыэце»),
каб не штодзень той завозілі харч,
а, ідучы зноў насустрач масам,
яго «выкідвалі» толькі часам —
каб бегалі масы па чэргах наўскач.
Дэкрэт набывае сілу ГОСТа.
Ім дзве праблемы рашаюцца
проста —
атлусцення і вялікага поста.
(Адзін знаёмы мне выдаў сакрэт:
у епархіі хваляць той дэкрэт.)

Ёсць і яшчэ адна навіна:
не страшная нам любая вайна,
бо так мы ўзмацнілі сваю ПВО,
што ПВО наша сёння — во!
Калі хто пасягне на наш статус-кво,
біць будзем у вока, а не ў брыво!..
Пра Нямігу пісаць не бяруся.
Проста баюся... Ты, пэўна, у курсе?
Нешта ідуць адна за адной
беды на нашай Беларусі.
Прызнайся, сумуеш часам па ёй?
Не-не ды сасніцца родны кут?
А нам дык цябе не хапае тут.
Учора набраў машынальна
твой нумар.
Але ў адказ усё той жа зумер,
той жа усё сігнал кароткі.
Мабыць, таму і звярнуўся
да Цёткі...

*Травень 1999 г.*

## Пярэчанне

Іронія лёсу. Грымаса лёсу...
Чаго ж ты іранізуеш, лёс?
Ты ж сам дараваў нам такі воз:
калёсы ёсць — няма атосаў,
атосы ёсць — прапаў хамут...
Чаго ж грымаснічаць ўжо тут?

*1999*

## Рэпліка ў палеміцы

Рытуальныя рухі ды скокі...
А патрэбны рэальныя крокі.
Ну так, былі ў нас апосталы слаўныя.
Ды сёння патрэбны мужы дзяржаўныя.
Справе адданыя, як і прарокі,
ды здольныя добра пралічваць крокі,
знаходзіць сродкі выратавальныя.
А то ўсё крокі рытуальныя...

*1999*

## Сцэна на плошчы

Мужчынам прасцей тут —
у іх кулакі, жаўлакі.
Дый глоткі у іх зладжаны крыху іначай.
А жанчыне як быццам
гучна крычаць не з рукі.
І жанчына... Жанчына, гляджу, проста плача.
Слёзы горка ўцірае на плошчы яна.
Неяк збоку, самотна, адна...

*1999*

## Гэты боль — асаблівы...

Гэты боль асаблівы —
Боль за родныя нівы.
Асабліва шчымлівы.
Асабліва журлівы...
Не скажу: апраметны.
Не зазначу: смяротны.
Ды ён дужа адметны —
боль за край наш родны.
Яго носіш дзе ты?
У душы? За грудзінай?
Знаеш толькі: боль гэты —
боль за лёс Радзімы.

*1999*

# Пра дараванне

Папа рымскі просіць даравання.
Папа кленчыць каля ўкрыжавання, —
згадвае Ісусаў запавет...
Слухае і бачыць цэлы свет.
Чуе, пэўна, і мая краіна.
Боль кальнуў маю душу раўніва,
калі я пачуў тую імшу.
Устрывожыў боль маю душу.
Хто і як: з амбону, ці на пляцы,
галаву схіліўшы пры распяцці,
на вачах сусвету ўсяго, —
да народа звернецца майго?
Ды прамовіць у глыбокай скрусе:
«Выбачайце, людзі Беларусі!
Бачыць Бог і сын яго Ісус:
Просім даравання, беларус!
Просім даравання за ўсе беды,
за падман і крыўды, што ты зведаў,
за знявагу, здзекі і разбой,
што ўчынялі злыдні над табой».
Мы ці дачакаемся такога?
Калі не — то на якога Бога
можам спадзявацца мы тады?
Можа, толькі на сябе, браты!
Папа рымскі просіць даравання.
Папа кленчыць каля ўкрыжавання.
Промень міласэрнасці не згас...
Хто папросіць даравання ў нас?
І калі надыдзе гэты час?

*2000*

## Крок за крокам, або Урокі рускай мовы

Паводле кнігі ўспамінаў пра
Саюз беларускіх патрыётаў,
што выйшла ў выдавецтве
«Наша ніва»

Яшчэ раз перачытаў
гаркотныя ўспаміны і развагі,
якія склалі кнігу «Гарт»
(другая назва «Прысягнулі Беларусі»),
і падумаў, што самы кароткі пераказ
яе асноўнага зместу,
а заадно і самая лаканічная
рэцэнзія на яе, міні-рэцэнзія,
могуць быць пададзены наступным чынам...
Уварваўшыся падчас урока ў клас,
дырэктар загадаў усім выйсці на калідор,
пастроіцца ў лінейку
і грозна скамандаваў:
«Кто не желает заниматься
на русском языке —
шаг вперед!»
Мы дружна зрабілі крок наперад —
наш апошні добраахвотны крок.
Потым з’явіліся ўзброеныя людзі,
сталі правяраць дакументы
і безапеляцыйна-злавесным тонам
прапанавалі: «Пройдемте с нами!»
Мы мусілі пайсці з імі,
мусілі зрабіць першы панявольны крок.

Першы крок,
Першы ўрок.
Урок рускай мовы...
Ведучы нас па вуліцы,
канвойныя папярэджвалі:
«Не останавливаться! Не смотреть по сторонам!»
Мы спатыкаліся,
мы з цяжкасцю перастаўлялі ногі,
але, вядома, не спыняліся,
але, вядома, неяк крочылі.
Крок за крокам.
Урок за ўрокам.
Урокі рускай мовы...
На этапах, на перасылках
нам часам дазвалялі спыніцца.
Але тут жа мы чулі:
«Не спать! Стоять по стойке смирно!»
Альбо: «А ну встать!»
І яшчэ гучалі знявагі, лаянка, мат.
Крок за крокам.
Урок за ўрокам.
Урокі ўсё той жа мовы...
Цягам усяго таго шляху
нас суправаджала яшчэ пагроза:
«Шаг вправо, шаг влево —
считаю побегом
и стреляю без предупреждения!»
Мы не збочвалі
ні направа, ні налева,
мы крочылі прама,
«прама ў светлую будучыню»
(«прямо в светлое будущее»).

Крок за крокам.
Урок за ўрокам...
Хаця — не.
Мусім аддаць належнае
некаторым гулагаўцам,
тым, што светлую будучыню нам,
сябрам Саюза беларускіх патрыётаў,
не абяцалі, а казалі адкрыта:
«Здесь вам не исправительный лагерь,
а лагерь карательный.
Вас привезли сюда карать,
а не воспитывать».
І яшчэ ўдакладнялі з прастатой,
вартай лепшага ўжывання:
«У вас теперь две дороги.
Вот сюда — сквозь проволоку, — на работу,
и вон туда, за сопку, с биркой на левой ноге».
Вось так мы і хадзілі,
так мы і крочылі:
на працу — правай, правай!
за сопку, у магілы — левай, левай!
Крок за крокам.
Урок за ўрокам.
Урокі ўсё той жа мовы,
той мовы, якую класік назваў
«вялікай, праўдзівай і свабоднай»
(менавіта «свабоднай»?)
і пра якую сказаў,
што яна была для яго
«падтрымкай і апорай
у дні сумненняў і цяжкога роздуму»
пра лёс яго радзімы.

Так, мабыць, сапраўды
была для рускага творцы
менавіта такой яна,
сапраўды вялікая, магутная і праўдзівая,
насамрэч цудоўная руская мова.
Але якім бокам паварочвалася,
чым рабілася яна
для нас, беларусаў,
для нас, сяброў
Саюза беларускіх патрыётаў,
для нашай Радзімы?
Яна рабілася прыладай
зла, гвалту і здзеку,
мусіла быць на службе
гвалтаўнікоў і катаў.
«Крок за крокам.
Урок за ўрокам...»

## **Пастскрыптум**

На жаль, успаміны сяброў
Саюза беларускіх патрыётаў
не страцілі актуальнасці,
трывожна гучаць і ў нашыя дні.
Русіфікатары не сунімаюцца.
Чаго варты хаця б адзін той факт,
што ідзе форменная вайна
з адзіным у краіне беларускім ліцэем.
І зусім не выключана,
што заўтра з’явіцца ў ліцэй нехта —
у палкоўніцкіх пагонах, у цывільным

ці ў камуфляжы «дзень-ноч», —
загадае ліцэістам пастроіцца ў лінейку
і гэтак жа (глядзі вышэй) скамандуе:
«Кто не желает заниматься на русском языке,
не желает объединяться с русскоязычным
лицеем —
шаг вперед!»
Зусім не выключана, —
няма ніякай гарантыі...

*2000*

## Адно ўдакладненне

*Памяці Васіля Гроднікава,*
*аўтара артыкула*
*«Асцярожна: “пятая*
*калона”!»*

Дзякуй, калега, за публікацыю!
За мужнасць, за мудрасць, за ясную рацыю.
Цудоўна пішаш ў сваіх Мазалях
пра беларускі цярністы шлях.
Думаеш добра, пішаш плённа...
Значыць, «пятая калона»?
На жаль, такая існуе.
Але... Тут ёсць адно «але».
Тут трэба зрабіць удакладненне
наконт яе месца і наймення.
Калі меркаваць, што наша «пятая» —
не класічная, агульнапрынятая,
у франкісцкім сэнсе яе, —
а мае адметнасці свае;
што наша сябе не канспіруе,
не маскіруе — адкрыта шчыруе,
уголас свой абвяшчае намер:
«Назад у імперскі СССР!»
Калі мець на ўвазе, што наша «пятая»
грыміць па тэле і па радыё,
тут манеўруе з відна да цямна,
то, мабыць, не пятая яна?
Калі мець на ўвазе яе дыспазіцыю,
яе амбіцыю і амуніцыю,
то, зноў жа, пытанне паўстае,

ці слушна «пятай» зваць яе?
Яна не пятая ў нас, а першая...
На гэтым мог бы і скончыць верш я.
Ды вось міжволі — да нябёс
я вочы з малітваю узнёс:
«Памажы нам, Божа Прасветлы,
справіцца з калонай гэтай.
Ну, а з астатнімі чатырма
справіцца, можа, краіна сама.
Справіцца, можа...
Памажы, Божа!»

*2000*

## Слова на развітанне Пярэдадзень новага міленіуму

Апошні.
Апошняя.
Апошнія...
Колькі тут горычы, Божа мой!
Колькі беззваротнасці
ў гэтым «цік-так, цік-так»!
Апошні ў гэтым годзе.
Апошняя ў гэтым стагоддзі.
У гэтым тысячагоддзі
апошнія. Ну так.
Гадзіннік б'е медным боем.
Б'е ў сэрца смертным болем.
А боль той адбіваецца
на нашым людскім чале.
Апошні ў гэтым годзе.
Апошні ў гэтым стагоддзі.
У гэтым тысячагоддзі
апошні. Ну так. Але.
Жанчынка мая каханая,
ты сёння такая ціхмяная,
такая задуменная...
Што ў цябе на душы?
Шкадуеш наша мінулае?
Чуеш гукі прачулыя
развітальнай імшы?
Дзякуй табе за каханне,
за гэтае вось спатканне,
дзякуй табе за гэтыя

шчырыя ласкі твае.
Апошнія ў гэтым годзе,
апошнія ў гэтым стагоддзі,
у гэтым тысячагоддзі
апошнія. Але.
Сябры мае, сябрына!
У нас адна краіна,
Радзіма адна-адзіная.
І мы ў яе адны.
Адны ў нас з ёй дарогі,
адны ў нас з ёй трывогі,
адны ў нас з ёй пакуты,
адны надзеі і сны.
Яна чакае спатолі
ў сваёй гаротнай долі,
і гэтае застолле
мы ёй прысвячаем: «Жыве!..»
Апошняе ў гэтым годзе,
апошняе ў гэтым стагоддзі,
у гэтым тысячагоддзі
апошняе. Але.
Апошнія гадзіны.
Апошнія радзіны.
Страты і здрады апошнія.
Апошні радасны ўздых.
Апошнія праклёны.
Апошнія паклоны.
Апошнія малітвы
ў імя усіх святых.
Заключныя акорды
гучаць на ноце пакорнай.
Гучаць на ноце мінорнай.

Растайваюць недзе ў імгле.
Апошнія ў гэтым годзе.
Апошнія ў гэтым стагоддзі.
У гэтым тысячагоддзі
апошнія. Але.

*Апошнія дні 2000 года*

## Жыццё прадаўжаецца... Нешта амаль аптымістычнае

Братове, сябры,
не будзем адчайвацца.
Жыццё ж не канчаецца,
жыццё прадаўжаецца.
Вунь голуб буркоча,
вунь носіцца чаіца...
Жыццё ж прадаўжаецца,
жыццё не канчаецца.
Трамвай вунь са звонам
бяжыць, спяшаецца...
Жыццё прадаўжаецца.
Надзея новая нараджаецца.
Жыццё прадаўжаецца.
Якое яно і як вырашаецца?
Але ж не канчаецца,
але ж прадаўжаецца.
Лісцё асвяжаецца.
Чуццё абуджаецца.
Дзіцё нараджаецца...
Жыццё прадаўжаецца.
Жыццё прадаўжаецца.
Жыццё прадаўжаецца!

*Верасень 2001 г.*

# Не помню такога лета…

Не помню такога лета,
каб было столькі квета,
каб было столькі кветкавай,
пялёсткавай белізны,
каб яблыні так квітнелі,
бялелі, ружавелі, —
пасля непагоды-слоты,
пасля халоднай вясны.

Не помню такога лета,
каб было столькі квета,
каб яблыні так квітнелі,
каб так цвілі сады.
Так хораша, так шчодра!
Каб так краналі пяшчотна
душы маёй лады!

Нібы казала прырода
людзям майго народа:
«Ведаю, людзі добрыя,
што радасці вам нестае.
Дык вось, мае любыя дзеці,
глядзіце на гэтую квецень,
глядзіце і любуйцеся,
і цешцеся, дзеці мае!»

Я глядзеў на яблыні,
на гэты цуд наваяўлены,
я глядзеў на квецень
і адыходзіў душой.
Такое было адчуванне,

такое хваляванне,
якое бывае ў храме
з яго ўрачыстай імшой.

Не помню такога лета,
каб было столькі квета
і каб быў такім цудам
ён з сваёй белізной-чысцінёй,
быў выклікам яўным гэткім
нежывым розным кветкам,
бруду, брыдоце рознай,
мярзоце ўсялякай зямной.

Не помню такога лета,
каб было столькі квета
і каб быў ён светлы,
як ранішні снегапад,
як юначыя мроі,
як вясельныя строі...
Не помню такога лета,
каб квітнеў так мой сад!

*Чэрвень 2006 г.*

# Здарэнне ў Судны дзень, або Ніл Гілевіч як аргумент

Зраблю адразу агаворку:
Увесь той Дзень, Хрыста другое прыйсьце,
калі перад Яго судом
прайшлі народы, роды і плямёны,
«абраныя ад чатырох вятроў,
ад краю і да краю ўсіх нябёсаў», —
апісваць не бяруся я.
Дзень гэты Судны апісаць не зможаш,
хоць будзь ты тройчы адвентыстам,
ці эсхатолагам хоць тройчы будзь.
Напэўна ж, нездарма таму
з усіх апосталаў-евангелістаў
толькі адзін Мацвей рашыўся распавесці
пра той страшэнны Суд, пра тое,
як Божы Сын Ісус Хрыстос,
пад гукі зычныя трубы анёльскай,
дзяліў сабраныя на суд народы,
іх размяжоўваў строга, бы пастух той
авечак аддзяляе ад казлоў,
і абвяшчаў затым свой вырак...
Ну ды рашуся ўслед за евангелістам
прывесці ўсё-ткі эпізод,
датычны нашай беларускай справы.
Было: як наша падышла чарга,
як той купалаўскаю грамадою,
з сваімі крыўдай, горам ды бядою,
з сваім жаданнем быць людзьмі
і, ведама ж, з вялікім страхам

паўсталі ўрэшце мы перад Судом, —
штось доўга углядаўся ў нас Ісус.
У першага спытаўся: «Беларус?»
Адказ яго не вельмі задаволіў.
Не надта пэўны, мабыць, быў адказ.
Ці не сказалі: «Я тутэйшы».
Прыгледзеўся, прыслухаўся Хрыстос
да гулу галасоў нястройных,
што даляталі да яго пасаду,
і, даўшы знак анёлам не трубіць,
пытацца стаў у беларусаў строга:
«Вам, чую, звацца хочацца людзьмі?
Хацелася б вам жыць па-людску?
Такое права дадзена вам Богам.
А як іначай? Вы ж яго стварэнні.
Як і другіх, стварыў вас Бог-Айцец
па вобразу свайму і падабенству
і, як другім народам і плямёнам,
вам мову ён ласкава дараваў.
Чаму ж замала ладу паміж вамі,
свае сваіх парой не пазнаеце?
Нібы няма агульнай мовы ў вас.
Чаму вы не шануеце як след
сваю, вам Богам дадзеную мову,
даеце крыўдзіць розным ліхадзеям?
Вы чуеце, як іншыя гучаць
нават у дзень майго прышэсця?
Упэўнена гучаць, на поўны голас.
А вашая? Так ціха, так нясмела.
Нібы ёй нават сорамна гучаць.
І мой прысуд: грашыце вы,
не цэнячы дар Божы — сваю мову,

і гэты грэх цяжкі ёсць беззаконне».
На момант тут замоўк Ісус.
Затым з апосталамі стаў перамаўляцца,
стаў з імі радзіцца, як быць-судзіць,
куды ж усё-ткі беларускі люд
аднесці — да «казлоў» ці да «авечак»,
куды паставіць яго ўсё ж —
па правую руку (шчаслівы бок)
альбо па левую (пакута вечная).
І зноў узвысіў голас свой,
звярнуўся зноў Гасподзь да беларусаў:
«Я сапраўды, вам сапраўды кажу я,
што між усіх народаў і плямёнаў,
якія прад судом маім паўсталі,
вы, можа быць, не самы грэшны,
хаця аднойчы і ўчынілі грэх
перад самім сабой і перад Богам.
І ў вас ёсць шанц для ўратавання.
Вы можаце назваць аднога з вас,
хто мову родную прыняў з маленства
як Божы дар, як запаветны скарб,
хто потым на шляху жыццёвым
быў верны ёй і вусна, і пісьмова,
быў верны ёй і ў радасці, і ў горы,
быў верны ёй і ў мроях, і ва ўчынках,
нібы навек з ёй заручоны быў,
хто ні на хвілю уявіць не мог
свой лёс і лёс свайго народа
без мовы роднай, без яе гучання
і хто гатовы быў заўжды,
лічыў сваім свяшчэнным абавязкам
абараняць і засланяць яе

падчас цяжкіх выпрабаванняў...
Вы можаце назваць аднога з вас?
Як можаце — то назавіце,
скажыце імя-прозвішча яго».
Узрушыўся, загаманіў натоўп:
«Ёсць, ёсць, Гасподзь, між нас падобны,
ёсць сярод нас якраз такі,
як распавёў ты у сваім звароце.
Імя ён мае — Ніл Гілевіч,
сын Кацярыны і Сымона
з той вёскі, што завецца Слабада.
Ён змалку і да сённяшняй пары,
да валасоў сівых, да схілу летаў
шануе, любіць, дбала сцеражэ,
як Божы дар вялікі, — слова роднае».
Прыслухаўся Ісус Хрыстос
і мовіў так: «Люд беларускі!
Мне ўцешна чуць такое ад цябе.
Лягчэй збаўляць мне, чым выносіць вырак.
Але, скажы, ці праўду сведчыш ты?
Ты ж ведаеш, што гэта грэх вялікі —
фальшыва сведчыць і казаць няпраўду.
Хай нават дзеля ўратавання.
Якія доказы ёсць у цябе?»
«Ёсць, ёсць! Ёсць доказы, Ісусе Хрысце!
Ёсць доказы, Збавіцель! Вось яны...»
І сталі людзі несці кнігі,
якія Ніл Гілевіч напісаў,
і літару і дух якіх складае
найперш ягоны клопат крэўны
пра мову родную як запаветны дар, —
і клалі да Хрыстовага пасаду,

і склаўся з кніг тых велічэзны стос
(дзівіўся, гледзячы на іх, Хрыстос),
а стос увенчавала кніга
«Любоў прасветлая»... Узняў яе Ісус,
гартаць пачаў старонку за старонкай.
І пасвятлеў твар у Хрыста.
І пасвятлелі твары ў беларусаў.
Прайшоўся ўздых палёгкі па натоўпе.
З'явілася надзея. А калі
убачылі мы, што наяве,
са светлаю спагадай уваччу
і, пэўна, з радаснаю весткай
кіруецца да нас апостал Пётра,
мы зразумелі: Божы Сын
не залічыў нас у казловы статак,
змяніў на міласць гнеў...
Амін!

*2007 год ад Нараджэння Хрыстовага*

## Лясныя асацыяцы

*Павалу Севярынцу —*
*аўтару «Лістоў з лесу»*

Новая рыфма: *Павал* і леса-*павал*...
І жанр нейкі новы зусім: лісты з лесу.
Літаратура старая, бывай!
Хоць, праўда, прагрэс гэты
горш ад рэгрэсу.
У лесе пісаліся,
з лесу ішлі лісты.
Дзякаваць Богу хоць, што лес гэты наскі, блізкі.
Не самы глухі, не самы густы,
не беспрасветны — накшталт тайгі сібірскай.
У той, сіблагаўскай, такіх не пісалі лістоў.
Калі хто рашаўся — ляцелі крывавыя пырскі,
на белым снезе радок чырванеў...
Пагатоў —
каралі без права перапіскі.
У нашым разе з лесу ішлі лісты.
І нават адольвалі шлях да друку няпросты.
Спрыялі, пэўна, родныя дрэвы-кусты...
«Ой, бярозы ды сосны, партызанскія сёстры...»
«Лясная песня», «Лясная быль»...
І вось працяг тэмы — «Лісты з лесу».
Тэма старая — новыя змест і стыль.
Нешта ўсё-ткі накшталт прагрэсу.

*2007*

# Ода электрычнасці

*Ніне Мацяш — аўтарцы радкоў: «Зла са святлом змаганне йдзе заўсёды. Няхай святло перамагае ў нас», — жыхарцы пасёлка энергетыкаў Белаазёрск, які ўзнік на месцы яе роднай вёскі Нівы*

Прысніўся сон —
страшэнны, змрочны:
блукаю ў пошуках свайго жытла,
блукаю без надзеі і святла...
Прачнуўся на зыходзе ночы.
І гэтым сном цяжкім разбіты,
прыходзіў доўга у сябе.
Нарэшце ўгледзеў на сцяне
знаёмыя да болю рэквізіты:
то-бок — разетку, шнур і бра.
Ура! Не ходзіць ліха без дабра.
Пакуль ты мроіў роспачныя сны,
жыла сваім жыццём электрасетка,
цябе чакалі ў галавах яны —
электрапровад, лямпачка, разетка.
Намацаў выключальнік машынальна.
І ўраз яскрава-асляпляльна
святло запаланіла мой пакой
і стрэс начны зняло нібы рукой.
«Жывём!» — падумалася.
Ёсць ён, электрычны,
загадкавы такі і такі звычны,

не відавочны, але не міфічны,
ток электрычны, светланосны ток.
Ён тут як тут! Мой асвятліў куток.
І ўспомніліся з гэтае нагоды
радкі, напісаныя ў добры час:
«Зла са святлом змаганне йдзе заўсёды.
Няхай святло перамагае ў нас!»
І ў думках слаў я ўдзячнае вітанне
на адрас паэтэсы з паэтэс
й... белаазёрскай яе ДРЭС,
ім разам дзякаваў за ратаванне.
А потым падаспела і світанне...

*Лістапад 2007 г.*

# Адзін дзень у БНР

*Паводле праекта Беларускай*
*службы Радыё Свабода,*
*прысвечанага 90-годдзю БНР*

Самая лепшая з улад —
тая, што раіцца з кожным і ўсімі,
тая, мудрасць у пашане і сіле,
тая, дзе ўвесь народ — урад.

*З ранейшага верша «Раіцца!» (1967)*

Адзін толькі дзень?
Усяго адзін?
Усяго толькі некалькі гадзін? —
пытанні я задаю сабе.
І сам у сябе шукаю адказу.
Адказ знаходзіцца неяк адразу:
«Справа ж не ў колькасці, а ў цане».
Справа не ў тым, *колькі*, а *як*:
як дзень прайшоў, як ён пражыты,
які быў яго духоўны знак,
як там пачуваўся люд паспаліты.
Спрабую ўявіць гэты дзень, тых людзей.
Спрыяе вось гэтая фотакартка,
гэты адбітак слаўных падзей:
«Бурбіс, Варонка, Смоліч, Захарка...»
Дзявяцера сталі ў адзіны рад.
Яны — Сакратарыят народны.
Наш першы беларускі ўрад.
Насамрэч беларускі, родны.
Я зноў углядаюся ў воблікі іх.
Я з імі вітаюся, я ў іх пытаюся,

я з імі ў БНР вяртаюся.
Мне дораг часіны той кожны міг.
Жыва ўяўляю пачатак дня...
Займаецца ярка і ціхамірна.
Затым напаўняецца цішыня
гукамі пранікнёнага гімна.
У гімне пяецца пра «вольны прастор»,
пра «дух беларускі, магутны, родны».
Няйначай пяе свабодны хор,
свабодна пяе пра народ свабодны.
Гучыць неўзабаве нечы зварот...
Варонкі? Крачэўскага? Езавітава?
З цікавасцю слухае народ.
З даверам слухае. Так менавіта.
(На тое ж яна і БНР,
каб не фальшывілі мы, не хлусілі,
каб тут былі ў законнай сіле
праўда, сумленнасць і давер.)
Да ранніх тых спеваў, прамоў і званоў, —
паважліва слухаюць места і вёска, —
лучацца словы іх верных сыноў —
Луцкевіча, Ластоўскага, Лёсіка.
Мяркую, няцяжка цяпер уявіць,
як гэты дзень далей адбываўся,
на лёсе народным як адбіваўся,
вілася далей як ягоная ніць,
якімі, дадам яшчэ, былі
ягоныя поўдзень і адвячорак,
якія аблокі над ім плылі,
колькі ўзыходзіла над ім зорак...

Ва ўсякім разе —
мой родны край
засвойваў дзяржаўным чынам строга:
«І сам жыві, і другому спрыяй...
Не рабі ліхога і не бойся нікога...
Каб не памерлі, не згінулі каб,
не пакідай матчыну мову,
вытокі свае шануй, як скарб,
цані, як заруку, як аснову...
На Бога разлічвай, у Бога вер,
ды й сам не гніся, за справу бярыся...»

...Так мне ўявіўся ў агульных рысах
жыцця адзін дзень у БНР.

*2007–2008, Стары Лепель–Мінск*

## Пра Беларусь-хуліганку, яе суд і «ахранку»

«Пад выглядам праверкі дакументаў іх даставілі ў аддзяленне міліцыі. Там склалі пратаколы за брыдкаслоўе. А на наступны дзень суд пакараў актывістаў штрафамі».

«Тут жа з’явіліся міліцыянты, затрымалі хлопца і абвінавацілі яго ў дробным хуліганстве. Справа была перададзена ў суд».

«Ноч да суда Аляксей Марачкін правёў у спецпрыёмніку-размеркавальніку на Акрэсціна. А 25 сакавіка суддзя Цэнтральнага раёна Мінска Таццяна Паўлючук прысудзіла мастаку 5 сутак адміністрацыйнага арышту. На той падставе, што Марачкін нібыта нецэнзурна лаяўся».

*З нядаўніх публікацый газеты «Народная воля»*

Вось дык дзіва!
Вось дык цуд!
Што ні суд — усё той жа прысуд.
Усё той жа артыкул:
«Хуліганства».

Хуліган — Алесь, хуліганка — Наста.
Хуліганы — Янка і яго каханка.
Хуліганы — Павал, Зміцер, Ганка,
Аляксей, Артур, Кася, Франак...
Цьма іх, хуліганаў і хуліганак!
А які стракаты іх кантынгент!
Тут — рабацяга й інтэлігент.
Хуліган — студэнт, хуліган — прафесар,
хуліган — дацэнт, хуліган — слесар,
хуліганы — паэт, мастак і артыстка,
хуліганы — вернік і атэістка.
І нават... Нават — вось як крута! —
хуліган — святар, служыцель культа...
Што ні суд — усё той жа прысуд.
Праўда, ёсць варыянты тут.
Бо хуліганы пайшлі, бач, розныя:
дробныя, злосныя, вельмі злосныя.
Парою губляецца нават суддзя.
А ўвогуле тая ж усё «статья»:
«Хуліганства».
                                Цуда ў рэшаце!
Хачу запытацца я нарэшце:
«Што ж гэта такое сталася з ім,
з людам маім, народам маім?»
Мой родны кут быў так мне мілы.
Жыў-быў тут люд спакойны, мірны,
рахманы, ціхі, памяркоўны,
крыху касцельны, крыху царкоўны,
крыху, напэўна, і паганскі.
Але ж, дальбог, не хуліганскі.
А тут... Нібы яго падмянілі,
нібы паддаўся нячыстай сіле.

Выходзіць на вуліцу і лямантуе.
Прытым не просіць, а пратэстуе,
а патрабуе, «правы качае»,
нават парою з дзёрзкім адчаем
кідае выклік ахоўнікам пільным.
Тым, што ў форме і што ў цывільным.
А часам нават уладу ганіць...
Ну, адным словам — хуліганіць.
Ды гэта не ўсё.
                    Паслухаць суд,
сведку ў пагонах,
                    дык мой люд,
як толькі на вуліцу вылазіць,
так і глядзіць, каб каго абразіць,
так і глядзіць, так і наровіць,
на ўсю плошчу брыдкасловіць,
мацюкаецца, мат-перамат...
Які тут паможа яму адвакат?
«Хуліган!» — пракурор сцвярджае.
«Хуліган!» — суддзя вызначае,
карае паводле таго ж артыкулу.
Быццам збіліся з панталыку.
Вось і мушу з трывогай пытацца я:
«Што тут прычынілася?
                    Мутацыя?
Зрухі ў генетычным кодзе,
у ментальнай нашай прыродзе?»
Змушае пытацца сітуацыя.
Ды штось не адказваюць аналітыкі,
палітолагі і палітыкі,
сацыёлагі, этнапсіхолагі.
Нібы свайму народу ворагі.

Стаўлю пытанне крыху іначай:
«Што ўвогуле стала з краінай нашай?
Была язычніцаю-паганкай,
ды не хуліганкай.
Стала шчыраю хрысціянкай,
ды не хуліганкай.
Была сялянкай, хутаранкай,
ды не хуліганкай.
Стала заўзятаю гараджанкай,
ды не хуліганкай.
Была паўстанкай, партызанкай,
ды не хуліганкай.
А сёння што адбываецца з ёй?
Паўстае хуліганкаю злой
на вачах планеты ўсёй.
«Ахранка» цікуе ноччу і днём,
мусіць змагацца з хуліганнём.
Хто тлумачэнне гэтаму знойдзе?
Зрэшты, збіваюся ўжо на паўтор.
Прабачце. Заканчваю свой твор.
На запытальнай, вядома ж, ноце
(пытальнік — неўтаймоўны знак):
«Што сталася? Што, чаму і як?!»

*Сакавік–красавік 2008 г.*

# Ішоў я, ішоў...

Ішоў я, ішоў.
Ішоў я, блукаў,
шчасця шукаў, вясну гукаў.
Не думаў пра нейкае там шоу.
Проста ішоў.
Ішоў я, ішоў.
Ад сяла да сяла.
Звычайнай дарогай дарога была.
Не бачыў, не ведаў ніякага шоу.
Хоць доўга ішоў.

Ішоў я, ішоў...
Куды прыйшоў?
Ці не ў краіну міражоў?
Дзе рэчаіснасць, а дзе шоу?
Вось дык прыйшоў.

Вясна без звонкіх капяжоў.
Шоу...
Начальнік на ўвесь экран узышоў.
Шоу...
Лета без цёплых ліўняў-дажджоў.
Шоу...
Экзарх да амбона чынна пайшоў.
Шоу...
Зіма без снегу, без скавышоў.
Шоу...
Суддзя ў змагару хулігана знайшоў.
Шоу...
Зрабілася нават для малышоў

марай блакітнаю тэлешоу.
Тэлешоу,
            арт-шоу,
                        секс-шоу...
Што за шоумен прыйшоў?
Ойча нябесны, па волі тваёй
ці па шайтаванай волі злой
Той шоумен ладзіць шоу?

*2008*

# Каханне па-беларуску, або «Стаўлю бульбу варыць»

ААН абвясціла 2008 год Міжнародным годам бульбы... Бульба — найважнейшы прадукт у нашай краіне. Беларусь уваходзіць у васьмёрку самых буйных вытворцаў бульбы і займае 1-е месца па вытворчасці яе на душу насельніцтва.

*З газетнай публікацыі*

Гэта словы, з якіх можна песню тварыць:
«Дзе ты ходзіш? Чакаю. Стаўлю бульбу варыць».

Словы тыя заўсёды казаліся ў час,
словы тыя гучалі тады якраз,
калі ты ступаў на жыццёвую гаць,
калі думаў, як быць і каго кахаць,
быў гатовы адчаем сябе марыць...
Чуўся голас тады: «Стаўлю бульбу варыць».

Словы тыя выводзілі на шлях.
Станавілася з імі святлей у вачах.
Беларусцы не трэба, апроч гэтых слоў,
нагаворнага зелля, чараў-замоў.

Беларуска знае, чым мужчыну скарыць,
як да сэрца яго сцяжыну тарыць
ды на мове якой з ім гаварыць.
Проста кажа: «Я стаўлю ўжо бульбу варыць».

Іншым разам можа яшчэ паўтарыць:
«Не марудзь, не спазняйся!
Стаўлю бульбу варыць».

*2008*

## Канстатацыя

*Сп. Стэфану Эрыксану,*
*Надзвычайнаму і*
*Паўнамоцнаму паслу*
*Каралеўства Швецыя ў*
*Беларусі*

Ён — Паўнамоцны насамрэч.
Ведаў кароль, каму даручыць паўнамоцтвы.
Прынамсі, для гэткіх, як сёння, сустрэч,
поўных прыязні і салідарных эмоцый.

Ён — Надзвычайны сапраўды.
Ён — патрыёт свайго каралеўства.
І ён так засвоіў нашай мовы лады,
нібы пачынаў на ёй гаварыць з маленства.

Так, ён пасол, якіх мала бачыў свет.
Пасол Надзвычайны, Незвычайны —
і як сын Радзімы сваёй, як швед,
і як беларушчыны сябра адчайны.

*Травень 2009 г., Дні шведскай літаратуры ў Беларусі*

# Ведаў, што...

*Памяці Ніны Мацяш*

Ведаў, што будзе ўсякае
ў гэтай зямной юдолі,
што будуць трывогі і страты,
што будуць раны і болі.

Так, ведаў, што будуць раны,
і часам небяспечныя,
але каб такія балючыя,
такія невылечныя.

Ведаў, што будуць страты,
і іншым разам бясцэнныя,
але каб такія цяжкія,
такія незаменныя.

Ведаў, што мы смяротныя,
што смерць наўкола блукае,
але каб такая лютая,
бязлітасная такая.

Прыйшла ўначы, як злодзей,
ў сваёй слепаце бязмернай...
Госпадзе Божа, я думаў,
што ты больш міласэрны.

*Снежань 2009 г.*

# Ратаванне рыфмай

*Васілю Зуёнку — аўтару эсэ-даследавання «Рыфма — гучная сяброўка» ад аўтара free вершаванага цыкла «Новыя рыфмы»*

...Ды ўслед за роздумам невясёлым
у бальнічнай палаце той,
пасля размовы з медсястрой,
мяняцца да лепшага стаў настрой
і думка такая прыйшла ў галаў:
«Хай, можа, і ўсе лугі пакошаны,
усе сенажаці твае і лугі,
але ж застаюцца яшчэ, дарагі,
рыфмы — свежыя, харошыя,
рыфмы — поўныя, дасканалыя,
незвычайныя, небывалыя...
І рыфмаў тых — непачаты край.
Толькі шукай, адкрывай, збірай,
ствараў вершалады ўдалыя
і жыві — не памірай!..»
Словам, да ўцешлівай высновы
прыходзіў я ў развагах сваіх.
Душа ажывала надзеяй новай.
І сам сабе рассмяяўся ўслых.
Собіла ж вось у бальнічнай палаце,
парой вечаровай, на схіле гадоў,
адчуць гэтак смак рыфма-суладдзя,
смак фонікі будучых вершарадоў.

Собіла ж... Розныя былі мары.
Пражыты немалы як быццам век.
А тут — летуценне пра рыфмарый,
як пра аналаг Страдывары,
як пра духоўныя хлеб і лек.

Дзіўна створаны ты, чалавек...

*2009*

# Высокі ганак

*Педагогу, завучу*
*19-й сярэдняй школы*
*г. Баранавічы Вользе Ул.*
*Мікушыцы (Невяроўскай)*

Памяць людская — вялікі мастак!
Так высвятляе, так выяўляе,
так пражытае ажыўляе!
Бы ўчора было. А было гэта так...

У шлях выбіраемся восеньскім днём.
Паспець на сустрэчу у школе мяркуем.
На «Маздзе» крылатай сваёй за рулём —
бард і паэт Эдуард Акулін.

Ахвотна дарога нас вяла.
Імкліва вілася яе стужка.
Я ведаў, што нас чакае Яна —
Вольга Уладзіміраўна Мікушка.

Я ў думках згадваў свой колішні верш:
«Лепшая мера жыцця — не рэчы,
лепшая мера жыцця — сустрэчы.
Не сустракаешся — не жывеш...»

Вілася дарога, вярста за вярстой,
шпарка круціліся аўтаколы.
І вось мы ўжо пад'язджаем да школы,
І вось я ўжо бачу ганак той.

Не казачным быў ён, не залатым.
Ды ўсё ж ад казкі было нямала

у сцэне, як нас на ганку тым
Вольга Мікушка сустракала.

Міла казала: «Чакаем, чакае клас».
Казала ветліва: «Калі ласка».
Наяве збываўся той міг якраз,
калі былі побач быль і казка.

Школу завём мы прывычна СШ.
І, можа, не толькі таму, што так зручна.
Рыфмуецца ж назва з «краса» і «душа».
Яны з навучаннем ідуць неразлучна.

Мінаюць дні нашы, знікаюць адзін за адным.
Ды, дзякаваць Богу, ёсць памяць людская.
Помніцца, як на ганку высокім тым
завуч Мікушка нас сустракае...

*2009*

# Замест рэцэнзіі

*Кастусю Цвірку —*
*ініцыятару выдання,*
*аднаму з укладальнікаў*
*і рэдактару кнігі*
*«Расстраляная*
*літаратура» (2008)*

Хто гэта пісаў калісьці:
«Калі ты знішчаеш твор —
ты чалавека знішчаеш,
выносіш яму прыгавор»?
Хто так казаў: «Камарада,
гэта не кніга, не:
калі да яе дакранешся —
далонь чалавека кране»?
Джон Мільтан... Уолт Уітмэн...
Наўрад ці чыталі іх
бальшавіцкія каты, —
ім было не да кніг.
Але калізію гэтую
«кніга і аўтар яе»
яны вырашалі імпэтна
і паспяхова ўдвайне:
ставілі разам да сценкі,
расстрэльвалі ва ўпор
кнігу і чалавека,
аўтара і твор.
Разлік іх быў вельмі просты:
калі паэта няма,
то няма і паэмы

і чэзне праблема сама;
калі няма «нацдэма»,
то гіне разам з ім
і нацыі праблема,
няма праблемы зусім;
няма беларускага сына, —
знік за турэмнай сцяной, —
няма беларускай ідэі,
няма і праблемы самой.

Так сталінскіх карнікаў зграя
вяршыла справы свае...
...Не, браце, гэта не кніга:
ты толькі крані яе —
і закранеш чалавека.
Ты толькі яе крані:
на вокладцы цёмна-барвовай —
адбітак застылай крыві.

Пакутніцкія лікі
глядзяць з яе бачын.
Госпадзе, памілуй,
дай іхнім душам спачын.
А нам, жывым, дай моцы,
дай пільнасці, каб надалей
нас гэтак больш не знішчалі,
нас, нашых кніг і людзей.

*2009*

## Паміралі, а жыта сеялі...

«Пагода дрэнная, дажджлівая. Праўда, апошнія пару дзён крыху пацяплела. І хоць яшчэ гразка, але збіраемся сеяць...»

*З апошняга, перадсмяротнага*
*ліста бацькі (вясна 1972 года)*

Паміралі, а жыта сеялі.
Жыта сеялі днямі вясеннімі.
Не чакалі з мора пагоды
ды з нябёсаў манны лагоднай,
а выходзілі ў поле рана
жыта сеяць дбала, старанна.

Паміралі, але не енчылі,
паміралі, але не кленчылі,
жыта сеялі, жыта расцілі,
жыта жалі, малацілі,
а як поўна было ў арудзі —
лягчэй дыхалі іхнія грудзі.

Паміралі, а жыта сеялі,
малацілі жыта і веялі,
шчыравалі без лішняй трывогі,
да апошняй змогі-знямогі.
Паміралі, а шчыравалі,
нават песню запявалі
пра лета ціхае, жыта гусценькае,
снапы-копы, сярпы залаценькія...

...Пісьмы бацькавы перачытваю —
уяўляю палоску жытнюю.

*2009*

# Дзе?
# Пытанне да сясцёр

— Скажы мне, скажы, Насця,
што сталася з намі такое:
дзе нашыя людзі прапалі,
дзе згінулі нашы дзянёчкі,
чаму ўсё навыварат, ніцма?

*З верша Яна Чыквіна*
*«Размова з сястрою»*

Сёстры мае, маё вам вітанне!
А разам з ім і маё пытанне,
якое ўсё з галавы не йдзе:
«Дзе?»
Што, родныя, маю я на ўвазе?
Вёску нядаўна наведаў з аказіяй.
І вось, калі адчынілі хатку,
не па сабе мне стала спачатку,
стала нават страшнавата:
холадна дужа сустрэла хата,
сустрэла такой пустатой-нематой,
нібы казала: «Няма мяне той...»

Так, гэта была сустрэча з пустэчай.
Ніводнай той рэчы, ніводнай той рэчы...
Дарэмна мой позірк блукаў з кута у кут, —
нічога ўжо ён не знаходзіў тут.
Дарэмна мой позірк блукаў па хаце.
І затужыла душа па страце.
І думка забілася, як у бядзе:
«Дзе?»
Дзе той гладыш? Дзе кварта тая?

Дзе тая даёнка? — памяць пытае. —
Дзе тая кадзь, кадушка, кадка?
Дзе гарнец той? — Не адказвала хатка. —
А той цабэрак? А тая дзежка?
А той куфэрак? А качарэжка?
Здаецца ж, былі яны кагадзе.
Дзе?
Куды дзяваліся — дзедава світа?
Лубка-сявенька? Рэшата-сіта?
Пытаюся, сёстры. Загадка гняце.
Дзе?
А тая іконка, пра нас што дбала,
з покуту строга на нас паглядала?
Не бачна яе ў цемнаце-пустаце.
Дзе?
Дзявалася дзе яно, усё тое,
лагоднае, роднае, святое,
жыццядайнае, жыватворнае,
незаменнае, непаўторнае?
Зляцела з ветрам? Сышло ў нетры?
Растварылася ў паветры?
Было ды сплыло? А ў якой вадзе?
Дзе?
Скажы мне, Ліда, скажы мне, Франя,
што за планіда, за наканаванне?
Знаю, дзе зніклі дзянёчкі нашыя.
А вось дзе пажыткі тыя ўчарашнія?
Дзе скарб той хатні? Пытанне гняце.
Дзе?

*Сакавік 2009 г.*

## Як голас самой радзімы малой...

Калі раным-рана
ў кватэры маёй —
то ранняй вясной, то позняй зімой —
званок прагучыць тэлефонны,
не звыклы, не будзённы,
а нейкі адметны зусім
па тону, па тэмбру сваім,
званок ласкава-тонкі,
па-святочнаму звонкі, —
яго я адразу пазнаю,
я хуценька трубку здымаю
і... чую Лепельшчыну сваю,
голас бацькоўскага краю.
Не забывае Лепель мяне.
Ранняе тое тэлефанаванне
заўсёды добрую вестку шле —
то запрашэнне, то віншаванне.
Скажу яшчэ: тыя «ало, ало!..»,
што грэюць, бы летняе цяпло,
належаць, як правіла, лепяльчанкам,
мілым зямлячкам, жанчынам-дзяўчаткам.
Удакладню — каб было ясней, —
што гэта яны тут менавіта
узначальваюць самавіта
культуру, рамёствы, школу, музей...

...Чуецца ў ранішняй цішы
званок. Падае зноў вестку Лепель.
Яна — як свята для душы.
Што за яе можа быць лепей!

Яна — напамін аб радзіме малой
ці нават голас яе самой...

*2009*

# Асенні вечар

*Алене Мятлеўскай, пано якой «Асенні вечар» (вышыўка крыжам) мне падарылі падчас сустрэчы ў Лідскім педагагічным каледжы*

Жыццё пражыць нам суджана гэтак.
Не поле ж перайсці, не палетак...
І колькі разоў на шляху жыццёвым
ты паўтараў, як заклён, як замову,
каб неяк суняць свой жаль чалавечы:
«Яшчэ не вечар... Яшчэ не вечар...»

Былі часам леты непагодныя,
не па-летняму халодныя.
Пакідалі расчараванне.
Ды заставалася ўсё ж спадзяванне
на цёплы дожджык, на ясную просінь:
«Яшчэ не восень... Яшчэ не восень...»

Не раз спахопліваўся, бывала:
«Задумваў шмат, а зроблена мала,
а жывеш, чалавеча, не вечна...»
«Яшчэ не восень... Яшчэ не вечар...» —
зноў прамаўляліся гэтыя словы,
як словы малітвы, як словы замовы.

А што маем зараз, у астачы?
На момант сённяшняй справаздачы?
Здымаю, гляджу з павагай належнай

пано, што калісь падарылі ў каледжы.
На ім — хаціна, дрэвы і вецер.
А на звароце: «Асенні вечар».

І смех, і грэх — жыцця адценні.
«Асенні вечар... Вечар асенні...»

*Сакавік 2009 г.*

## Ад чаго мой сум

Не ад таго мой сум,
што я не таўстасум,
што, можа, ў нечым абышоў калега.
Не ў гэтым мае альфа і амега.
Не, іншага паходжання мой сум.

Не ад таго мой сум,
што каралю не кум,
што з лёсам не заўсёды быў у згодзе,
што, можа, песіміст я па прыродзе...
Не, ўсё ж не ад таго мой сум.

Хутчэй за ўсё ён, пэўна, ад таго,
што больш нашмат нагодаў для яго,
чым для уцехі, чым для весялосці.
Не ладзіцца вось шчасце штосьці
у люду беларускага майго.

Тут зноў чужая сіла правіць баль.
Трывога... Паняверка... Скруха...
І гэтак мала радаснага духа.
Да гэтага ж яшчэ, на жаль,
хварэем во, старэем во... Але.

Жанчыны нашыя цяжэй за нас хварэюць.
Жанчыны нашыя раней за нас старэюць.
І страху таго больш на іх чале.
А гэта ліха, смерцю што завем
і што, як тая злая зграя,
штодзень і ўсюды нас падсцерагае.
Пад знакам смертнасці сваёй жывем.

Не ад таго мой сум, што я не таўстасум.
Як бачыце, ад іншага мой сум...

*2010*

## Пра гора, якое бязмежнае...

Беды бываюць большыя.
Беды бываюць меншыя.
А гора таму найгоршае,
што яно — бязмежнае.
Гора... Яно — як горы,
яно — як цёмныя нетры.
І мы перад ім — без апоры,
Нібы пыл на ветры.
Перад ягоным гмахам
мы толькі часцінкі, пылінкі,
толькі травінкі, былінкі,
агорнутыя страхам...
Гаруем, братове, сяброве?
Гаруем, мае дзеці?
Ловім таго на слове,
хто кажа пра шчасце на свеце?
Гаруем во, дачушка?
Ты ў школе чула часта,
што, як для палёту птушка,
так створана ты для шчасця.
Птушка напраўду лятае.
Чаму не лятаць, не спяваць ёй!
А ты вось зноў у лякарні,
у цеснай казённай палаце.
Вязу я табе лекі,
вязу я табе перадачу,
цяжкія мае павекі,
у душы сваёй плачу.
З бядою я справіўся б скора.

А тут штосьці няўцешнае.
А як адолееш гора,
калі яно бязмежнае?

*2010*

## Рэпліка ў дыскусіі аб правапісе

Заснавальнікі нашай граматыкі
былі здатныя вельмі прагматыкі.
Скажу болей — яны былі геніі:
не выдумвалі, не мудрагелілі
(геніяльнае ўсё — простае).
А рашылі так бацькі хросныя:
як маўляецца, артыкулюецца,
якраз гэтак жа і чуецца.
А як чуецца, так і пішацца,
так на літаркі гукі ніжуцца.
А як пішацца, так і чытаецца,
так адно з адным тут сплятаецца,
так стасуюцца гук і літара.
Непадзельныя, неразлітыя.
Кажу псеўдарэфарматару:
не чапай маю арфаграфію —
ці не самую удалую,
ці не самую дасканалую.
Яна ўзгоднена з Усявышнім.
Мы як чуем, так і пішам.
А чытаем, як пішам, — са згоды
самой роднае нашай Прыроды.

*2010*

## Ускраіны Мінска

Курапаты — дарога смерці.
Едзь па ёй, калі хочаш памерці.
Старажоўка, Сляпянка, Лошыца...
Як тут памяці не трывожыцца?
А яшчэ Цівілі ды «Яма»...
Усё тая ж крывавая пляма.
Бараўляны — зноў жа трывога.
А Навінкі — скрухі дарога.
Вось такая Мінска аколіца.
Ёсць чаго яму непакоіцца.

*2010*

## Першапачатак

Бацькі не ладзілі між сабой.
Ведама ж, дзеці ўсё чулі і бачылі.
Іхнія душы ўсё зазначылі,
балючаю поўніліся журбой.
Пытанне ў іхніх душах расло,
чаму так не ладзяць таты-мамы,
з’яўляцца стаў у іх роздум той самы
пра самыя тыя дабро і зло...

*2010*

## Да пытання аб адпаведнасці

Злуе і мучыць неадпаведнасць...
*З ранейшых вершаў*

— Калі б вы сталі кіраўніком Беларусі, што б вы зрабілі найперш?

— Увёў бы ў дзеянне закон Адпаведнасці, а сам вярнуўся б да таго, чым займаюся цяпер.

*Адказ Алеся Разанава на пытанне анкеты*

Так, мучыць нас неадпаведнасць...
Багацце мрояў — явы беднасць,
бліскучасць формаў — зместу бледнасць,
дабра мінучасць — вечнасць зла,
святло надзей — няўхільнасць тла.

А колькі, бачыце, амбіцый
без адпаведных амуніцый,
ці гэтых вось, гатовых біцца,
каб першымі быць на жніве,
хоць там не сеялі, але.

Сумленню — вучыць несумленны,
а разуменню — дурань гэны,
што ў дураце сваёй нязменны.
А суддзі хто? Хто судзіць нас?
Ці не падсудныя якраз?

Жыццё дае урок за ўрокам,
а мы ідзем ўсё тым жа крокам,

шлях азіраем тым жа зрокам,
ніяк не можам у жыцці
ўсё тыя ж граблі абысці.

Цяпер вам, пэўна, зразумела,
чаму Разанаў гэтак смела,
бы муж дзяржаўны пробы спелай,
сказаў, як пра заветны кон, —
пра Адпаведнасці закон...

*2011*

# Што было напачатку Дыпціх

1

Бывае: ледзьве-ледзьве ідзеш,
цяжар несучы жыццёвы.
Ды раптам дух перавядзеш
і зразумееш, што не ўпадзеш,
што поўнішся моцаю новай.
Бывае: не можаш узняць вачэй,
становіцца роспач нясцерпнай.
Але застогнеш — і стане лягчэй,
і стане табе лепей.
Само сабою — ў выпадках тых —
напрошваецца выснова:
ратуюць нас стогн і ўздых,
калі бяссільнае слова.

2

Не слова ўсё ж напачатку было.
Ішло ўсё ў іншым парадку.
Уздых і стогн былі напачатку,
а з іх ужо потым слова расло.
За гукам гук, за складам склад
з'яўляліся, прарасталі словы,
словы-паняткі, словы-назовы...
І калі справа ідзе ў нас на лад —
мы радасна іх прамаўляць гатовы.
Ну а калі (глядзі вышэй)
табе не да слова, не да сказу, —

глыбока ўздыхнеш — і стане лягчэй,
застогнеш — і стане лепей адразу.

*2011*

# Быкаў гэта — лета...

Дзень нараджэння і тут жа дзень смерці, дзень пачатку вайны і дні летняга сонцастаяння... Усе гэтыя дні дзіўным чынам сышліся на цесным часавым пятачку пад знакам Васіля Быкава

Быкаў гэта — лета
з яго вышынёй, шырынёй,
Быкаў гэта— лета
з яго цішынёй і вайной.
Быкаў гэта — лета,
дзе то ціша, то смерч.
Быкаў гэта — лета,
дзе то жыццё, то смерць.
Быкаў гэта — лета.
І ў бліках яго святла
бачная яўна адмета
змагання праўды і зла.
Быкаў гэта — лета,
Вялікі-вялікі дзень!
Ранак сустрэчы светлай
і развітання цень.
Быкаў гэта — лета,
дзе то быль, то легенда,
то мроя, то ўспамін,
то «станься», то «амін».
Быкаў гэта — лета.
Лета зямнога света.

Нябёс васільковая сінь.
Быкаў Васіль...

*2011*

## Жыву!

...Такі вось загаловак.
На міг спыняецца аловак:
не можа вызначыць ніяк,
які далей паставіць знак.
Ну, гэты самы знак графічны.
Ці то шматкроп'е, ці то клічнік?..
Пра што ідзецца? Рэч у тым,
што ўраз праз эмацыйны ўздым
акрыла раптам прасвятленне,
і уявіўся, на здзіўленне,
нібы разгорнуты сувой,
табе ўвесь шлях жыццёвы твой.
Выснова — думка ў галаву
прыйшла, як адкрыццё: «Жыву!».
Так, факту гэтаму здзівіўся...
Даўным-даўно, брат, нарадзіўся,
на свет з'явіўся, а жывеш
і нават пішаш гэты верш?
А быць магла ж інакшай доля.
Гаркавая была спатоля
на працягу ўсіх зім і лет.
Не вельмі быў зычлівы свет.
Была вайна, быць мог забіты,
мог быць забіты і забыты,
на тыя звезены клады,
дзе ціха спяць твае дзяды.
Адолеў тое ліхалецце, —
жыву на гэтым белым свеце.
Губляў шмат родзічаў сваіх, —

жылі-былі, жыву без іх.
Не уяўляў жыццё без маці,
шчаслівы быў у роднай хаце.
Матулю пахаваў сваю,
а сам жыву, сам існую.
Меў мару — мрою запаветную
пра будучыню нашу светлую,
натхнёна наяву і ў снах
узводзіў камунізму гмах.
Нямашка камунізму тога,
Сацыялізму развітога...
Што ж засталося наяву?
Зміраюць мроі, сам жыву.
Ці мала яшчэ пра што марылі.
Ды падпільноўвалі аварыі
на гэтай самай на «стезе».
І ў іхнім ліку — дэ-тэ-зэ.
Пацвердзяць Скобла і Акулін,
як іх аўто ляцелі кулем,
як мы ляцелі пад адхон
з бядою наўздагон, на скон.
Усе жывыя, дзякуй Богу.
Жыву, збіраюся ў дарогу.
Адмета ўрокаў тых усіх —
мы тут жа забываем іх.
Жыву! Не факт, што лепшым чынам,
магчыма, быў не лепшым сынам,
не лепшы, мабыць, муж і брат.
Сам ці здаволены? Наўрад.
Ды вось — самому на здзіўленне —
жыву і кожны новы дзень я,

ягоную сінь-сіняву
страчаю думкаю: «Жыву!»

*Лістапад 2011 г.*

## Жыццё як выпрабаванне

Жыццё — выпрабаванне?
Ну так, ну так, сябры.
Не проста шчыраванне
ад зары да зары,
не проста існаванне
ад ранняй да позняй пары.

Жыццё — выпрабаванне.
Кім? Чым? І дзеля чаго?
Так, слушнае пытанне.
Адказваю на яго.

Выпрабаванне — удачай.
Выпрабаванне — бядой.
Выпрабаванне — нястачай
і найлепшай ядой.

Выпрабаванне — болем,
які засмучае і гне.
Выпрабаванне — няволяй,
тым болей — воляй, але.

Выпрабаванне — уладай
і пакорай тупой.
Выпрабаванне — здрадай
таго, хто быў з табой.

Крыўды, неміласэрнасць,
Спакусы і гвалт... І таму
выпрабаванне — на вернасць
праўдзе, сумленню свайму.

Вынесеш выпрабаванне,
здасі той і іншы іспыт, —
і дасца табе трыванне
годна сысці ў нябыт.

*2011*

## Ці спетая наша песня?

Jezcze Polska nie zginieła...
Ще не вмерла Україна...
І жыве на свеце белым
Беларусь, мая краіна.

Вось такія гучаць гімны,
Так пяюць браты-суседзі.
А што — мусілі б і згінуць
на зямным на гэтым свеце?

І не жыць ніколі болей?
Па якой такой прычыне?
Па чужой, вядома ж, волі,
па драпежніцкай, злачыннай?

Бралі пернікам і сілаю,
і ахвяр было бязмерна.
Ды і Польшча не загінула,
і Ўкраіна не памерла.

І жыве мая Айчына.
Як жыве — другая справа.
Як? Заможна ці нішчымна?
Яна — край ці ўжо дзяржава?

Ці народ, ці люд тутэйшы,
чыя хата — усё з краю,
а наверсе — брат старэйшы:
за малодшым назірае?

Рытарычныя пытанні.
Раздарожжа — гістарычнае.

І асіліць яго ў стане
толькі воля гераічная.

Будуць воля, ды «Пагоня»,
ды паходня палаць ясна, —
і не згінем мы сягоння,
ну а заўтра жыцьмем шчасна.

*2011*

## Наконт хомо сапіенс

Якія мы падобныя
і якія розныя!
Якія мы добрыя
і якія злосныя!

Якія мы разумныя
і якія бязглуздыя!
Якія мы сумныя
і якія шустрыя!

Якія мы крылатыя
і якія бяскрылыя!
Якія мы заўзятыя
і якія панылыя!

Пафас і іронія,
зло і дабро прасветлае...
Вось такая гармонія,
вось такая сіметрыя.

То любім і ашчаджаем,
то губім адзін аднога.
Ды голасна сцвярджаем,
што ўсе ходзім пад Богам.

Каб так сапраўды хадзілі,
гэтак глядзелі на рэчы, —
то быў бы напраўду адзіны
род наш чалавечы.

*2011*

## Вечная квецень

Убачыў, як квітнее сад,
і адарваць не мог пагляд.
Нібы глядзеў упершыню
на гэткую харашыню.
Нібы сам пачынаўся з ёй,
з вясновай гэтай навізной.
Здавалася такое штось:
не прамінула маладосць,
якім ты быў, такі і ёсць,
з табою вёсны твае ўсе —
усе ва ўсёй сваёй красе.
Што той узрост, тыя гады,
калі вось так цвітуць сады!
Напраўду, рэч не ў тым зусім,
пражыта колькі лет і зім.
А ў тым, што зноў квітнее сад,
як шмат гадоў таму назад.
А ў тым, што зноў квітнее сад
і што святлее твой пагляд.
Што потым, як і пры жыцці,
сады ва ўсю будуць цвісці —
вось так якраз і ў той жа час...
І ў гэтым будзе штось ад нас,
ад нашых веснавых надзей
ды ад святла нашых вачэй...

*2011*

# ПАЭМЫ 70-Х ГАДОЎ МІНУЛАГА СТАГОДДЗЯ



## Кэты-мэнэй

Я атрымаў паштовую адкрытку.
Мяне ў ёй віншавалі з Новым годам.
Ды віншавалі не зусім звычайна,
Замест «віншую» і замест «жадаю»,
замест «дзень добры» і «бывай здаровы» —
два толькі іншых караценькіх словы:
«Кэты-мэнэй!..»
«Кэты-мэнэй!» — чытаю я ў пачатку.
«Кэты-мэнэй!» — чытаю я ў канцы.
«Кэты-мэнэй!» — шапчу я ціха.
«Кэты-мэнэй!» — шапчу гучней.
«Кэты-мэнэй!..» «Кэты-мэнэй!..»

Шапчу я і ўсміхаюся сабе,
сваім напаўзабытым успамінам...
«Кэты-мэнэй!..» Якія гэта словы?
З якой яны ўзяты мовы?
Ці існавалі ўвогуле раней?
«Кэты-мэнэй!.. Кэты-мэнэй!..»
Тут я павінен вас расчараваць:
яны ніякай мове не належаць,
ні самай дальняй і ні самай блізкай,
ні чэшскай, ні французскай, ні англійскай.
Зусім не існуе ў прыродзе мовы,
дзе б меліся два гэтых словы:
«Кэты-мэнэй».
Я сам іх вынайшаў,
я сам прыдумаў іх.
А можа быць, я іх і не прыдумваў.

А можа быць, яны тады,
у момант азарэння, празарэння,
успомніліся, ажылі ўва мне,
як спадчына далёкіх продкаў...
Ды лепей раскажу ўсё па парадку.
Я жыў у невялікім гарадку.
Быў маладзейшы я, чым зараз.
Па-маладому закахаўся я.
Не ў гарадок, вядома, хоць і ён
мне падабаўся — ціхі і зялёны.
Быў закаханы я, быў улюбёны
у дзеўчыну мясцовую адну.
Ну, а каханню, як вядома,
патрэбны які востраў неабжыты
ці лес які, глухі і першабытны.
Ну так, яму патрэбны дзікі лес,
а не выгоды тыя, не прагрэс.
Яно, каханне, застаецца ўсё ж
той птушкай непрыручанаю, дзікай,
якой патрэбны сонца і паветра,
паляна светлая, лясны паўзмрок...
І я пайшоў з сяброўкаю сваёй
за гарадок. Ішлі прасёлкам,
ішлі сцяжынкай мяккай, лугавой.
Прыйшлі да ўзлесся, увайшлі ў лес,
ішлі тым лесам, які вабіў нас,
заманьваў нас сваёю гушчынёю,
бязлюднаю сваёю цішынёю
ды абяцаў палянкі ўтульнай дол.
І мы прыйшлі,
і мы яе знайшлі.

Знайшлі мы запаветную палянку.
Яна была святлейшая ад ранку,
І тут убачыў я сваю каханку
так блізка, так выразна, як раней
не бачыў я яе... Кэты-мэнэй!..
Кэты-мэнэй!.. Кэты-мэнэй!..
Ураз загаварыў такой я мовай,
такія вырваліся раптам словы,
якіх не чуў, якіх не ведаў я.
«Кэты-мэнэй», — казаў я ціха.
«Кэты-мэнэй», — я паўтарыў мацней.
«Кэты-мэнэй», — сказаў яшчэ гучней....
«Кэты-мэнэй... Кэты-мэнэй...»
«Кэты-мэнэй...» Што гэта азначала?
Што значыла вось гэтае двухслоўе?
Чаму яно адно тут загучала
замест шматлікіх іншых слоў?
Ці, можа, іншыя ўсе словы
пабляклі раптам, страцілі свой сэнс
перад чароўнай гэтаю красой
лясной палянкі, і маёй каханкі,
і гэтай цішыні лясной?
Ці, можа, я знямеў, дар мовы страціў,
забыўся мовы ўсе і словы ўсе
ад пачуцця, што захліснула нас,
з'яднала нас з зялёнай гушчынёю?
«Кэты-мэнэй...» Што значылі яны,
два гэтых таямнічых словы,
якія вырваліся з глыбіні душы
(ці, лепей, з глыбіні падкоркі)?
Яны, напэўна, значылі: «Люблю».

Яны, магчыма, значылі: «Кахаю».
І значылі яшчэ, быць можа: «Шчасце».
«Кэты-мэнэй...» Тут, мабыць, быў зварот
да любай, да палянкі і да лесу,
да неба і да сонца, што так шчодра
лілося праз густыя кроны.
«Кэты-мэнэй», — сказаў я,
                                        і яна
мяне надзіва хутка зразумела,
бо шчыра засмяялася ў адказ.
«Кэты-мэнэй», — сказаў я,
                                        і яна
прамовіла ў адказ: «Кэты-мэнэй!»
«Кэты-мэнэй!» — гукнулі разам мы.
«Кэты-мэнэй!» — зашапацела лісце.
«Кэты-мэнэй!» — зашчабяталі птушкі.
«Кэты-мэнэй!» — загаманілі дрэвы.
Выходзіла, што двое закаханых
знайшлі агульную з усімі імі мову,
усім ім болей блізкую, чым тая,
якой звычайна гаварылі мы
і страцілі на нейкі час якую...
Прайшлі гады. І вось я разглядаю
паштоўку, на якой рукой жанчыны
(ну так, той самай, з казкі той лясной)
напісана: «Кэты-мэнэй!» Замест
«дзень добры» і замест «віншую».
Напісана ўсяго два толькі словы.
Я моўчкі разглядаю іх,
як знак дзівосны моўчкі разглядаю.
А потым ціха па складах чытаю.

А потым паўтараю ўжо мацней:
«Кэты-мэнэй, Кэты-мэнэй,
Кэты-мэнэй...»

*1971*

# Паэма мора

1

Што будзем рабіць з табой, мая змора?
Да мора!
Адкуль жураўліная гэта пакора?
Да мора!
Душа захацела марскога прастору...
Да мора!
Лета прайшло, а другое не скора...
Да мора!
Сябры і сям'яне, не трэба дакору!
Да мора!
Як быццам там іншыя шчасце і гора...
Да мора!

2

Выйду на бераг рана,
маленна скажу ў цішы:
«Павей, абвей, марана,
марана, мой твар асвяжы.

Другія павевы і ветры
на ім пакідалі свой след.
Абвей, каб зноў быў светлы,
быў свежы шмат зім і лет.

Марана, я чую твой подых,
лёгкі, як дотык у сне...»
Марана ідзе па водах
і ў твар ціха вее мне.

### 3

Шумела мора за акном...
Яно было спакойным зранку,
ды зашумела перад сном —
як быццам пела калыханку:
«Спі, чалавеча, спі, засні.
Ты спіш заўсёды ноччу цёмнай,
пасля штодзённай мітусні,
пасля сваёй турботы дзённай.
А мне — шумець,
і я шумлю,
насуперак усякім зморам.
Мне — кідаць хвалю на зямлю,
мне — кідаць выклік ціхім зорам.
Спі, чалавеча, спі, засні.
Ты тут часовы,
чалавеча.
Аднойчы ты заснеш зусім.
А мне — шумець,
шумець мне вечна.
Шумець і ноччу мне, і днём,
шумець зімою мне і летам».
Шумела мора за акном.
Спаў моцна чалавек, і гэты
чалавек — быў я...

### 4

Якое было яно?
(Хаця не сказалі «мора»,
ды ясна было ўсё адно,
што мы пра мора гаворым.)

Якое мора было?
Не гуло, не раўло
яно раз'юшаным зверам,
зыбалася ў рытме мерным —
было міласэрным.

Якое мора было?
На гэты раз не гняло,
змрочна не бушавала,
не гнала цёмнага вала —
мілавала.

Якое мора было?
Ззяла, як серабро.
Хвалі не дыбіла,
гальку не драбіла —
любіла.

Якое мора было?
Шчодра дарыла цяпло,
горача ўздыхала,
на ўлонні сваім калыхала —
кахала.

5

Адсыпаюся ў белай пасцелі.
А купаюся ў Чорным моры.
Ажываюць зноў сілы ў целе.
Аджывае душа на прасторы.
Гэта здорава, проста здорава!
Шчыра ўдзячны табе, прырода,
што табою мне мора падорана —

за мой клопат зямны ўзнагарода.
Гэта здорава —
рана прачнуцца
і шчасліва ўсміхнуцца: мора!
Збегчы ўніз, на хаду распрануцца,
на бягу ад зямлі адштурхнуцца,
акунуцца, усміхнуцца: мора!
І паплыць як далей ад сушы,
і забыцца на бераг цэлы...
Ты ратуй, мора, нашы душы!
Ты гартуй, мора, нашы целы!

6

Шчаслівы ты быў
і быў нешчаслівы...
Прылівы-адлівы, адлівы-прылівы.
Цвярозы разлік
і жывыя парывы...
Прылівы-адлівы, адлівы-прылівы.
Надзея, твае зелянеюць зноў нівы...
Прылівы-адлівы,
Прыходзім-адходзім,
наш поступ імклівы...
Адлівы-прылівы.
«І будзеце зноў вы,
раз ёсць, раз былі вы...»
Прылівы-адлівы.
«Зноў шэпт паўтарыцца,
гарачы, гуллівы...»
Прылівы-адлівы, адлівы-прылівы.

## 7

Цярпення, прашу я, цярпення!
Яшчэ пачакаем ледзь-ледзь.
Тут нечага і глядзець.
Што ўбачыш у гэтай пене,
у гэтай вось каламуці,
у месіве гэтым густым?..
Давайце яшчэ пабудзем,
яшчэ крыху пастаім.
Бачыце: вецер сціхае,
бура ідзе на спад,
а разам з ёю назад
уся каламуць сцякае.
Яна на дно асядае.
І мы, праз чысты слой,
у люстранай гладзі
убачым зноў воблік свой.
Убачым у ёй адвячорак,
воблакаў белых сувой,
убачым адбітак зорак
і вечнасці самой.
Давайце пачакаем...

## 8

Нехта спявае, як вешчы баян,
спеў той разліўся ў паветры:
«...І ўсё гэта ў мора, і ўсё ў акіян,
і ўсё ў акіян сусветны».
Зыходзім, хто чым, мы:
                                        рыба — ікрой,
хмара — вадой дажджавою,

мы з табой — потам,
слязамі,
крывёй,
вільгаццю іншай жывою.
Зыходзім, сцякаем, як сокі палян,
і ўсё ў той абсяг запаведны —
і ўсё ў акіян, і ўсё ў акіян,
і ўсё ў акіян сусветны.

Жыццё пачалося з яго глыбінь.
І ў памяць аб тым мінулым
ён патрабуе ахвяр і любві
сваім уладарным гулам.

На беразе помнік былым баям,
ветрам не раз апеты.
Лілася тут кроў... І ўсё ў акіян,
і ўсё ў акіян сусветны.

Ты плачаш, дзяўчынка?
Праходзяць, як зман,
паўднёвыя стрэчы і леты.
Цякуць твае слёзы... І ўсё ў акіян,
і ўсё ў акіян сусветны.

9

З сваімі прылівамі і адлівамі,
з сваімі штылямі і штормамі
мора вучыла нас быць шчаслівымі,
мора вучыла нас быць задорнымі.

З сваімі адценнямі і светаценямі,
з тайнай чароўнай у ціхім пошуме

мора вучыла нас быць летуценнымі,
мора вучыла нас быць прыгожымі.

З сваімі ўсходамі і заходамі,
з зорамі, што адбіваліся ўвечары,
мора вучыла яшчэ нас быць гордымі,
мора вучыла яшчэ нас быць вечнымі.

Мора, абдымкі твае шырокія
на развітанне прымаю адчайна я.
Мора, удзячны табе за ўрокі я,
за прыклады светлыя і павучальныя.

*1975*

# **Снег і сонца**
## *Абмен надвор'ем — жартам і ўсур'ёз*

Спачатку быў наш снежань,
быў наш снег беларускі...
Нам спадабаўся наш госць,
балгарскі паэт Андрэй Германаў
(па бацьку — свет Дзімітроў;
па дзеду — выхадзец з Шыпкі,
з вёсачкі той, што прылегла,
прыпала да падножжа
горнага пераваду
з аднайменнай назвай,
вядомай як сімвал вялікі).
Нам спадабаўся наш госць,
другар наш Андрэй Германаў,
равеснік і аднадумца,
паэт, перакладчык, мастак
(аўтар сяброўскіх шаржаў).
І мы з ім шчодра дзяліліся
усім, чым маглі падзяліцца, —
і хлебам-соллю, і песнямі,
і ўсмешкамі, і ўспамінамі...
Яшчэ — краявідам зімовым,
снегам нашым яшчэ.
Мы госця павезлі ў лес.
І ў лесе тым, казачна-белым,
смяяліся, жартавалі,
гулялі, як дзеці, у снежкі.
А потым, зачараваныя
лясной зімовай казкай,

змоўклі, глядзелі сцішана,
як лес яшчэ больш святлее,
як лётаюць, кружаць сняжынкі,
як лёгка падае снег...
Вярнуўшыся на радзіму,
поўны ўражанняў новых,
Андрэй напісаў тут жа верш,
які быў прызнаны ў Сафіі
лепшым вершам года,
які быў так і названы:
«Беларускі снег».
Калі хто не ведае твора,
паслухайце, як ён гучыць
у перакладзе Гілевіча,
як пачынаецца ён:
«Над прасторам анямелым,
над гуртамі срэбных стрэх —
кружыць дзіўны, кружыць белы,
беларускі кружыць снег...»
(І тут жа заўважу: нядаўна
ў сваім старым блакноце
знайшоў я таксама радкі,
што звязаны з той падзеяй.
Верш так і не быў скончаны,
ды раз такая нагода,
то прывяду радкі:
«Глядзеў наш балгарскі брат,
як падаў снег — светла і чыста.
Нібы адбываўся абрад
нашага пабрацімства...»)
Спачатку быў наш снежань,
быў наш беларускі снег.

А потым Андрэй Германаў
паклікаў мяне у госці:
«Давай прыязджай хутчэй!
Лепшы для гэтага час,
калі ўжо май на зыходзе,
а лета на самым пачатку,
калі паспявае чарэшня,
але няма яшчэ спёкі
і ажыятажу турысцкага
на нашых крутых дарогах.
Чакаем цябе — і я,
і нашы сябры агульныя,
і мой Фіат Жыгулевіч
(або — Жыгуліна Фіатаўна;
двайным, як бачыш, імем
ахрысціў я сваю машыну,
што выпусціў ваш завод).
Паездзім, пабадзяжнічаем
па роднай маёй, камяністай,
па горнай маёй зямельцы...»
Так яно і было.
Андрэй паказаў мне Сафію
і гордасць Сафіі — Віташу,
якая дні два была
ў тумане (ці, можа, ў аблоках),
ды раптам паўстала ва ўсёй
сваёй прыгажосці горнай...
Яшчэ, перад падарожжам,
сустрэўся з другімі сябрамі,
сустрэўся з Найданам Вылчавым,
з Давыдкавым і Паптоневым,
пагаварылі цёпла,

пакаштавалі ракіі,
віна густога балгарскага.
І вось, знайшоўшы момант,
Андрэй сказаў: «Пара!»
Агледзелі ўсебакова
наш Фіат Жыгулевіч
(яна ж Жыгуліна Фіатаўна).
Сабралі карты, блакноты...
Што яшчэ было трэба,
што трэба было яшчэ ўзяць
у такую дарогу?
Помню, у нейкай сувязі
я нагадаў Андрэю,
што маці не раз мне казала,
калі збірала ў дарогу:
«Запас не чыніць бяды».
Андрэй паўтарыў тыя словы
і дадаў у адказ,
што амаль такое ж
чуў ён ад сваёй маці,
якая казала яму:
«Зімою без тарбічкі,
а летам без аблічкі
(без торбы і вопраткі, значыць)
з дому не выходзь...»
Так, прыгадаўшы матак,
балгарскую і беларускую,
нібы благаслаўленне ўзяўшы,
крануліся ўрэшце мы.
Мы рушылі на ўсход,
Да Чорнага мора, да Варны
(пад Варнаю вёсачка Яварава,

дзе нарадзіўся Андрэй).
Мы ехалі па зямлі,
якая была для друга
роднай, а для мяне
яшчэ была тэра інкогніта,
ды ўжо адкрывалася мне.
Андрэй дзяліўся са мной
усім, што меў на радзіме.
Дзяліўся сінім небам,
зялёнымі горнымі схіламі,
водарам руж у даліне,
мясцінамі гістарычнымі,
лавандавымі плантацыямі,
помнікамі і крыніцамі
(яны ў Балгарыі разам),
дзіцячымі успамінамі,
садамі і вінаграднікамі,
песнямі гайдуцкімі,
вёскамі і гарадамі,
пяскамі залатымі,
зорамі балканскімі,
мілагучнымі трэлямі
варненскіх салаўёў...
Дзяліўся ўсім, што меў
ён на сваёй радзіме.
(«Ты будзь як магнітафон,
ты толькі слухай, запісвай,
а я расказваць буду,
паказваць буду табе...»)
Дзяліўся ўсім, што меў.
І абяцанай чарэшняй,
што якраз падаспела

да нашага падарожжа.
Калі прытамляў крыху рух,
зганялі наўзбоч машыну,
а самі лезлі на дрэвы
(Андрэй тут паказваў прыклад),
і такім натуральным,
такім першабытным чынам
мы здабывалі чарэшню,
свежую, сакавітую,
елі удосталь, усмак.
(Нямала ёсць пераваг
у тым птушыным спосабе
здабывання ежы.)
Добра падмацаваўшыся,
заадно — наталіўшы смагу,
заадно — крыху адпачыўшы
(вось што такое чарэшня,
калі есці проста з дрэва!),
ехалі мы далей...
Андрэй дзяліўся ўсім,
што толькі меў на радзіме.
А меў нямала ён.
Калі праязджалі праз вёску
з назвай такой славянскай —
Жытарава (ад «жыта»),
ён мне з усмешкай сказаў:
«Толькі ў гэтай вёсцы
У мяне не менш як паўсотні
стрыечных дзядзькоў і цётак,
стрыечных братоў і сясцёр...»
Ехалі мы далей.
Андрэй з усмешкай той жа

і крыху больш шматзначнай
сказаў: «У наступнай вёсцы
зробім маленькі прыпынак,
і я цябе пазнаёмлю
з дзядзькам сваім адным.
З усёй сваёй раднёю,
як ты ўжо здагадаўся,
я не змагу пазнаёміць
пры ўсім маім жаданні.
Ды з гэтым сваім дзядзькам,
з кавалём і вінаградарам,
з цёзкам сваім Андрэем,
з Германавым Андрэем,
хачу пазнаёміць цябе...»
Германаў, той, што дзядзька,
сустрэў нас каля хаты,
новай, дагледжанай, чыстай
(не хата, а заглядзенне!),
павёў у хату нас,
гасцінна паставіў чарэшань
(так, гэта былі зноў яны!):
«Частуйцеся на здароўе».
І тут жа спытаўся ў мяне,
з пляменнікам любым сваім
па-змоўніцку пераглянуўшыся:
— Ну, як Балгарыя наша?
Відаць, спадабалася вам?
— Ці спадабалася? Дзіва што!
Яшчэ б ды не спадабацца! —
пачаў я з захапленнем. —
Такі цудоўны край!
Такі разнастайны, багаты!

Чаго ў вас толькі няма!
У вас і горы, і долы,
і вінаград, і чарэшня...
— І ёсць усе поры года! —
узяў падхапіў нечакана
Германаў, той, што старэйшы,
і, глянуўшы зноў на пляменніка,
у тым жа тоне дадаў:
— Ёсць усе поры года,
усе чатыры сезоны;
зіма, вясна, лета, восень...
Я тут крыху апешыў
ад такой павароткі тэмы.
Збянтэжана глянуў на сябра:
«Давай выручай, калега!»
На дзядзьку глядзеў запытальна:
«Жартуе ён ці ўсур'ёз?»
А той з усмешкай гуллівай
глядзеў на нас з Андрэем:
якое, маўляў, ураджанне
робіць яго «дасведчанасць»,
робяць словы яго?
Трэба было мне змірыцца
з тым, што ў сваім захапленні
узяў я занадта высока,
што трэба збавіць пафас
хаця б на паўтона ніжэй.
— Ну так, — працягваў я,
падладжваючыся пад жартоўны,
пад гуллівы тон балгарына,
з якім, як я зразумеў,
трымаць трэба вуха востра. —

Ну так, усё ў вас ёсць,
ёсць усе поры года.
Узяць вось, напрыклад, лета.
Слаўнае лета ў вас...
— І слаўная будзе восень, —
працягваў гульню сваю дзядзька, —
мы маем у наяўнасці
чатыры выдатных пары.
— Усе чатыры сезоны, —
не вытрымаў і пляменнік, —
у нас як мае быць!
— І ўсе чатыры вятры
дзьмуць у вас цудоўна? —
працягваў я далей.
— Ну так, ну так, вядома...
Вятры ў нас проста на славу.
— Вятры, і сонца, і дождж...
— І, значыць, круглы год
вам ёсць чым ганарыцца?
Ёсць радавацца чаму?
— Так, так, і мы гатовы
па-братняму з вамі дзяліцца
багаццем усім сваім,
як гэтаю чарэшняй...
Так жартавалі мы
ў вясковай балгарскай хаце,
чыстай такой, такой светлай,
гасціннай і мудрай такой.
Так я гасцяваў на зямлі
сябра свайго Андрэя,
так я адкрываў яе
людзей, прыроду, надвор’е...

Прыгадваў я потым не раз
той жарт старэйшага Германава
і думаў аб тым, што ён
наўрад ці хацеў пакепліваць
з майго адкрыцця Балгарыі,
з турысцкага ззяння майго.
Не меў ён і намеру
рабіць мне, госцю, праверку
на здольнасць валодаць гумарам,
які назіраў я там скрозь.
Калі я не памыляюся,
тлумачыцца ўсё прасцей.
Вуснамі дзядзькі паэта,
каваля і вінаградара,
смяяліся, гаварылі
сялянская прастадушнасць,
душэўнае тое здароўе,
адна з умоў якога —
чуццё прыроды роднай,
глыбокая злітнасць з ёй.
Ну і, вядома, быў гумар,
што так уласцівы балгарам
(стагоддзі турэцкага рабства
не дасягнулі свайго!).
Ну і, вядома, была
любоў да роднай краіны,
і да яе прыроды,
і да пагоды яе.
І я з сваёй Беларусі,
то снежнай, то зялёнай,
то сонечнай, то дажджлівай,
багатай таксама на ўсё, —

сардэчнае шлю прывітанне
маім сябрам балгарскім,
двум Германавым Андрэям,
пляменніку і дзядзьку,
пісьменніку і кавалю.
Жадаю ім, каб спорна,
каб добра, каб паспяхова
змяняліся поры года,
каб ім у жыцці спрыялі
усе чатыры сезоны,
усе чатыры вятры!

*1979*

# Змест

**Паэмы 70-х гадоў мінулага стагоддзя**

**Вярцінскі, А.**
В99 Жыцьмем : вершы і паэмы/ Анатоль Вярцінскі. — Мінск : Кнігазбор, 2012. — 132 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 21)
ISBN 978-985-7007-48-6.

У новую кнігу паэзіі Анатоля Вярцінскага ўвайшлі вершы 1997–2011 гг., якія, за некаторым выключэннем, не ўваходзілі ў асобныя выданні. Другі раздзел склалі малавядомыя паэмы 70-х гг. мінулага стагоддзя.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 64 (4 Беи)-5**

Фотаздымкі — *У. Крука* і *Г. Лабадзенкі*

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 21

**Вярцінскі** Анатоль

**ЖЫЦЬМЕМ**

*Вершы і паэмы*

Адказны за выпуск *Г. Вінярскі*
Рэдактары *А. Пашкевіч, Б. Пятровіч*
Вёрстка *Л. Ваўчок*
Карэктар *А. Спрытніч*

Падпісана да друку 21.02.2012. Фармат 80х100 1/32.
Папера афсетная. Друк на рызографе. Ум. друк. арк. 6,93.
Ул.-выд. арк. 3,94. Наклад 300 ас. Зак. 125.

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33,**
**тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка
ў ААТ «Аргбуд».
Ліцэнзія № 02330/0494197 ад 03.04.09.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.